© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 49 (2012) ГОД XXXIX БЕЛАСТОК 4 СНЕЖНЯ 1994 г. ЦАНА 4000 зл.

Беата Капій

## Смерць у жыцці і творчасці Максіма Багдановіча



Пра жыццё і творчасць Максіма Багдановіча было ўжо многа сказана і напісана. Шматлікія даследчыкі і крытыкі літаратуры з розных бакоў займаліся тым, што напісаў выдатны беларускі паэт. Ведаем таксама, што Багдановіч часта пісаў пра смерць. Чаму так атрымлівалася, напэўна ў нейкай ступені ведаем. Каб ведаць больш, я ўглыбілася ў розныя паэтычныя і публіцыстычныя творы Багдановіча. Знайшла я ў іх галоўныя фактары, якія несумненна выклікалі ў душы паэта патрэбу выказання ў пісьмовай форме ўсяго таго, чым жыла яго-ная душа.

Зацікаўленасць Багдановіча праблемай смерці ў значнай меры матывуецца фактамі з яго асабістага жыцця, але і ў нейкай ступені грамадска-палітычнай сітуацыяй тагачаснай Беларусі.

Смерць спадарожнічала Багдановічу з найменшых гадоў і не адыходзіла ні на крок. Калі яму было ўсяго 5 гадоў памерла яго маці — Марыя Апанасаўна. Хутка смерць прыйшла зноў, каб узяць тую, якая хаця на кароценькі момант хацела заступіць месца маці.

А потым смерць пачала датыкаць самыя блізкія яму асобы. Малодшага брата — Шурыка, старэйшага — Вадзіма. А з 18 года жыцця стаяла ўжо за плячыма Максіма (які — як ведаем — па маці „пераняў” туберкулёз), каб урэшце яго ўзяць у 26-гадовым узросце.

Жыццё Багдановіча, пазначанае хваробай, гэта жыццё чалавека, які беспярэпынна змагаўся з уласнай немаччу. Гэта жыццё чалавека, які хацеў — а нават больш — нястрымана цягнуўся да таго, каб дзесьці за сабою пакінуць боль прамінання. Гэта барацьба з лёсам. Зласлівым лёсам.

Багдановіч быў чалавекам адважным. Жыць у свядомасці блізкасці ўласнай смерці і адначасова захоўваць душэўную раўнавагу, спакой і радасць жыцця патрабуе немалой адвагі. Ён не жаліўся на свой лёс. Не любіў нават мучыць іншых сваімі клопатамі са здароўем. Калі ўжо каму-небудзь гаварыў пра сваю хваробу, проста сцвярджаў факт. Гаварыў пра гэта без непатрэбных эмоцый. Дасканалым адлюстраваннем праўдзівасці таго сцвярджэння з'яўляюцца словы з ліста, пісанага Багдановічам у рэдакцыю „Нашай нівы” ў пачатку 1913 года:

*... Не дзівіцеся, што ў мяне літары выходзяць зусім дзіцячыя — пішу я лёжучы, бо моцна хварэю — інфлюэнца ці васпаленне лёгкіх, тэмпература ў мяне падымаецца да 40, а 39,5 бывае кожны дзень. Але чорт з ім!..*

Гэтае моцнае і адважнае „чорт з ім” з'явіцца яшчэ не адзін раз, але ў іншай, больш далікатнай постаці, у шматлікіх паэтычных творах Багдановіча. Гэтае „чорт з ім” — выказанне гераічнага амаль падыходу да факту ўласнай немачы. Гэта ўказанне на другараднасць, ці можа нават нязначнасць хваробы ў яго асабістым жыцці.

Ведаем аднак, што хвароба паступова вынішчала паэта. Пхала яго да смерці. Восенню 1915 года Максіма паваліў тыф. Але ацалеў. А зімою 1916 года зноў запаленне лёгкіх. Пасля гэтага ён канчаткова не дайшоў да сябе, паколькі сухоты рабілі сваё. У лютым 1917 года сябры паслалі яго на лячэнне ў Ялту. Але і там, замест чаканай паправы здароўя смерць вялікімі крокамі ўваходзіла ў сферу яго жыцця.

У лісце П.Я. Гапановічу, пісаным у сакавіку- красавіку 1917 года (год у якім Багдановіч „сустрэўся” са смерцю) знаходзім дасканалае пасведчанне таго, як хвароба вынішчала маладога паэта:

*Не вылечили меня и послали в Крым. (...). Четыре дня искал квартиру (...). Боюсь одного — не вредна ли близость к морю (...). Комната, значит, хороша, а здоровье мое пошло не в гору, а под гору (...)..., ходить стало трудно — пойдешь и засапаешься. Похудел я. А в заключение пошла кровь...*

Працягваў аднак паэт сваю літаратурную дзейнасць. Там — у Ялце — паўсталі так прыгожыя творы, як „Набягае яно”, „Пралятайце вы, дні”, „У краіне светлай, дзе я ўміраю”.

Вялікім цярпеннем напэўна былі перапоўнены апошнія дні жыцця паэта, паколькі рашыў ён свайму бацьку (перад якім раней надзейна ўкрываў факт прагрэсіруючай хваробы) напісаць пра стан свайго здароўя:

*Здравствуй, старый воробей. Молодому воробью плохо (...). Мокроты у меня много, температуры высокие, два раза шла кровь (...) но с этого кровотечения из кровати уже не встаю — ослаб окончательно. Скоро начнутся жары, надо будет уезжать из Ялты, а как в таком виде поедешь?*

Ліст гэты паэт не паспеў адправіць. Бацька прачытаў яго ўжо пасля смерці сына. Памёр Багдановіч 25 мая 1917 года ў поўнай адзіноце, а пры ложку, на якім „увайшоў у краіну вечнасці”, знойдзены быў паэтычны зборнічак „Вянок”, на якім слабеючай ужо рукой былі напісаны словы — апошнія словы паэта:

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты.*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*

*Працяг на стар. 10*

## НОВЫ СТАРШЫНЯ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА

21 лістапада г.г. у Беластоку, у памяшканні Філіяла Варшаўскага універсітэта, прайшоў нечарговы сход Беларускага саюза ў Польшчы. На сённяшні дзень Беларускі саюз ствараюць: Беларускае аб'яднанне студэнтаў, Звяз беларускай моладзі, Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне, Асацыяцыя беларускіх журналістаў, Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа”, Беларускае гістарычнае таварыства і Праграмная рада Тыднёвіка „Ніва”. Членамі гэтай структуры адмовіліся стаць толькі Беларускае грамадска-культурнае таварыства і Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы.

Найважнейшым пунктам пасяджэння была змена ўлад БС. Старшыня Пётр Юшчук папрасіў вызваліць яго ад займаемай функцыі па сямейных прычынах. Адначасна падкрэсліў, што найважнейшай нявырашанай справай для БС павінен заставацца Цэнтр беларускай культуры ў Беластоку. Другая справа, гэта паспяховая дзейнасць у бліжэйшай будучыні.

Паколькі, як зазначыў вядучы сход Алег Латышонак, да змены ўлад сход не быў падрыхтаваны, абмежаваўся адно выбарам новага старшыні. Стаў ім настаўнік гісторыі гайнаўскага Беларускага ліцэя Яўген Вапа.

Новы старшыня заявіў, што найважнейшай справай з'яўляецца выпрацоўка сваёй карціны будучыні. Дзеля гэтага патрэбная перш-наперш рэгулярная праца. Запрапанаваў ён стварэнне трох пастаянных камісій: дэмаграфічна-гаспадарчай, культурнай і асветнай. Выпрацоўвалі б яны ацэнку сітуацыі, у якой апынуліся беларусы Польшчы. Дзеля прапаганды нашай культуры павінен завязацца адпаведны Фонд (прапанаваная назва: Фонд беларускай культуры). Мы мусім выходзіць навонкі, як да шырокіх колаў беларускай грамадскасці, так і да палякаў. Цудаў не бывае, казаў Яўген Вапа, калі нечага даб'емся, дык толькі заангажаванасцю і сістэматычнай працай.

Пасля выбару старшыні прысутныя заслухалі інфармацыю Яна Чыквіна, прадстаўніка беларускай меншасці ў працах сеймавай падкамісіі па справах Ustawy o Prawach Osób Przynależnych do Mniejszości Narodowych i Etnicznych, падпісаліся пад пратэстам удзельнікаў навуковай асветнай канферэнцыі ў Бельску, накіраваным міністру нацыянальнай адукацыі ў справе мешанай польска-беларускай школьнай камісіі і ўхвалілі пратэст у справе ліквідацыі беларускай філалогіі ў Беластоку.

Да наступнага сходу старшыня з выбранымі асобамі абавязаліся падрыхтаваць праект статута Фонду беларускай культуры і зрабіць намаганні, каб у новастворанным рэгіянальным тэлевізійным асяродку ў Беластоку была беларуская перадача.

М. В.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Poseł otrzymuje dietę 8 mln. Jeśli jest posłem zawodowym, otrzymuje dodatkowo ryczałt — 10 mln zł., który od grudnia wzrośnie do 15 mln. Każdy poseł może ponadto otrzymać zapomogę lub nisko oprocentowany kredyt na mieszkanie lub samochód. Do tego dochodzi 28 mln na biuro poselskie. Jeżeli poseł kupił do biura jakiś sprzęt na sumę poniżej 10 mln zł, to po zakończeniu kadencji zatrzymuje go dla siebie. Posłowie nie są zobowiązani przedstawiać rachunków.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 261)*

40 мільёнаў у месяц за так цяжкую працу, гэта не зашмат. У тэлебачанні часам паказваюць, што не ўсе ў змозе вытрымаць цяжкія ўмовы пасольскай службы народу. Пры канцы дня ў сеймавай зале засядае толькі 10-20% народных абраннікаў.

* * *

*Prezydent Białorusi J.E. Aleksander Łukaszenko obiecał narodowi, że tej zimy z powodu głębokiego kryzysu energetycznego jego biuro będzie ogrzewane do temperatury 12 stopni. Chce w ten sposób dzielić warunki życia zwykłych obywateli.*
*(Najwyższy Czas, nr 42)*

Спачуваем сакратаркам.

* * *

*Bezrobotny otrzymuje 1,8 mln zł, początkujący nauczyciel — 2,3 mln. Jeśli odliczyć koszty dojazdu — dla państwa praca warta jest 300 tys zł. więcej niż bezczynność.*
*(Wprost, nr 46)*

* * *

*Główny Komitet Pamięci Ofiar Stalinizmu, z siedzibą we Wrocławiu, ogłosił konkurs na wspomnienia ludzi zawiedzionych, oszukanych i skrzywdzonych przez NSZZ „Solidarność”.*
*(Polityka, nr 46)*

* * *

*Armia bośniackich Serbów, przyzwyczajona do łatwych zwycięstw, uległa demoralizacji. Natomiast żołnierze sił muzułmańskich to ofiary czystek etnicznych.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 262)*

Чорт адзін ведае, які інтарэс мае „Gazeta Wyborcza” ў тым, што кожны дзень друкуе антысербскую балбатню. Публіцыст гэтай газеты Давід Варшаўскі ўжо найменш сто разоў даказаў, што сербы — гэта д'яблы, а харваты ды мусульмане — проста анёлы.

* * *

*Харвацкія ўсташоўцы заўсёды параўноўвалі сябе да Хрыста. „Хрыстос і ўсташы, Хрыстос і харваты крочаць разам праз гісторыю. Новая ўсташоўская Харватыя будзе Хрыстовая, нашая і нікога больш”, — пісала каталіцкая газета „Неделя” ў чэрвені 1941 г. Ад красавіка 1941 г. да чэрвеня 1941 года замардаваных было ў Харватыі 120 тысяч сербаў. Берučы пад увагу кароткі час, была гэта найбольшая масакра ў час Другой Сусветнай вайны. Ноччу 29 жніўня 1942 году ў канцэнтрацыйным лагеры Ясеновац быў дадзены загад экзекуцыі вязняў. Тыя, што кіравалі гэтай работай, зрабілі заклад, хто найбольш заб'е вязняў. Пётр Брэзіц падрэзаў горла 1 300 вязням спецыяльным нажом разніка і выйграў спаборніцтва — Караля падрэзання горлаў. За гэта атрымаў ад каменданта залаты гадзіннік, усмажанае парася і віно. Камендантам лагеру ў Ясеновац быў каталіцкі манах Міраслаў Філіповіч.*
*(Голас Часу, н-р 6/33; Лондан)*

* * *

*Калісь адзін рымскі імператар зрабіў сенатарам каня, каб давесці ўсім уласную ўсемагутнасць. Толькі такая гістарычная аналогія прыгадваецца, калі гавараць пра прызначэнне 23-гадовага Ягора Рыбакова кіраўніком Магілёўскага тэлебачання.*
*(Літаратура і мастацтва, н-р 44)*

Камісарамі ў Чырвонай Арміі былі нават 17-цігадовыя юнакі.

* * *

*Takiego szydzenia z obywateli, takiego chamstwa, jakie wyprawiali konsulowie i urzędnicy ambasad USA, Niemiec, Francji, Włoch, prawie wszystkich krajów zachodnich w Moskwie, nie ścierpiałoby żadne szanujące się państwo. Ale jak bić po łapach, które dają dolary.*
*Więc chamstwo trwało dalej.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 262)*

Да гэтай пары толькі в'етнамцы знайшлі спосаб рэагавання на амерыканскае хамства. Дыскуталі як роўны з роўным.

* * *

*W demokracji jest groźba kary wymierzonej społeczeństwom niedojrzałym, pyszałkowatym, zacofanym, próżnym. I to jest, na miły Bóg, wielki kawał prawdy o dzisiejszej Polsce.*
*(Wprost, nr 45)*

* * *

*Hitler poważnie traktował swoją ideologię, podczas gdy Stalin nie traktował serio marksizmu.*
*(Polityka, nr 45)*

* * *

*Dla rosyjskich oficerów świat jest pełen zdrady. Na liście wrogów Rosji w pierwszej czwórce znajdują się republiki nadbałtyckie wyprzedzając USA, Niemcy i Japonię. Polska jest na dwudziestym miejscu. Rosjanie przywiązują niewielką wagę do naszego kraju. W stosunku do Polski panuje raczej życzliwa obojętność. Gazety rosyjskie piszą natomiast o „nieskończonym chamstwie panującym w wydziałach konsularnych amba-sad amerykańskich”.*
*(Gazeta Wyborcza, nr 260)*

* * *

*Rozmówki polsko-rosyjskie:*
*— Izwinitie, zdieś bjut?*
*— Nie, to tylko wagon II klasy, tu tylko rabują.*
*— Witamy w Europie.*
*— My jedіem s Jewropy, s Biełoruskowo Wokzała.*
*— Niech będzie pochwalony. Kontrola celna. Dokumenty proszę.*
*— Kto będzie chwalony. Czto on goworit?*
*— Czyja to wódka?*
*— Eto moja licznaja wodka.*
*— Rekieterzy pociągu relacji Petersburg — Bruksela witają państwa. Celem usprawnienia obsługi pasażerów prosimy trzymać dewizy przygotowane do odbioru...*
*(Polityka, nr 46)*




**Мітрапаліт Васілій** наведаў Бельск-Падляшскі. Першаіерарх Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ўзначаліў багаслужбу ў памяць св. Міхаіла ў Свята-Міхайлаўскай царкве ды сустрэўся з уладамі горада і гміны. Тэмай гутаркі былі грамадскія праблемы і роля Праваслаўнай Царквы ў жыцці горада.

**Шэф Управы Рады Міністраў Міхал Стронк** падтрымаў законнасць пастановы свайго папярэдніка **Яна Марыі Ракіты** ад верасня 1993 г. у справе перадачы Супрасльскага манастыра Праваслаўнай Царкве. Мінулагоднае рашэнне УРМа апратэставалі Каталіцкая курыя ў Беластоку і Ордэн базыльянаў у Варшаве.

**Міністэрства замежных спраў** не знайшло падстаў прызнаць віцэ-консула Расейскай Федэрацыі ў Кракаве **Барыса Шардакова** персонай нон грата, — заявіў міністр **Анджэй Аляхоўскі**. Міністр палічыў, што выказванні Шардакова, які параўнаў Пілсудскага да Сталіна, не прадстаўляюць афіцыйнай палітыкі ці сістэматычнай дзейнасці улад Расеі, а толькі прыватныя яго меркаванні. Польскае МЗС прызнала, што Шардакоў страціў здольнасць выконваць сваю функцыю ў Кракаве і перадало свой пункт погляду знешнепалітычнаму ведамству Расеі.

**Дэнамінацыя злотага** (1:10000) будзе праведзена 1 студзеня 1995 года. З гэтага дня ўвойдуць у абарачэнне 9 манет (1, 2, 5, 10, 20, 50 грошаў і 1, 2, 5 злотых) і тры купюры: 10, 20 і 50 злотых. Ста- і двухсотзлатовыя банкноты з'явяцца некалькі месяцаў пазней. На ўсіх банкнотах памешчаны выявы польскіх каралёў.

**Краёвая рада радыёвяшчання і тэлебачання** забараніла прыватным і публічным радыёстанцыям і тэлецэнтрам дэманстраваць ад 6 да 23 гадзіны перадачы, якія пагражаюць псіхічнаму, фізічнаму і эмацыянальнаму развіццю дзіцяці, г.зн. у якіх зміяшчаюцца грубіянскія выказванні, словы і жэсты, сцэны насілля і сладастрасныя эпізоды.

**У Беластоку** адбылася сустрэча прадстаўнікоў **Найвышэйшай кантрольнай палаты (НІК) і Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь.** Перамовы датычылі супрацоўніцтва ў галіне кантролю прыгранічных зон.

**Беластоцкая ўсходняя біржа** пачала ўжо сваю дзейнасць. Кіраўнікі біржы намерваюцца супрацоўнічаць галоўным чынам з Усходам — Расеяй і іншымі краінамі СНД. Наладжаны ўжо кантакты з Саюзам прадпрымальнікаў Беларусі і маскоўскай біржай „Гермес”.

**Нарвежскі канцэрн „Оркля”** выкупіў 51% акцый выдавецкага агенцтва „Эдытар”, якое выдае беластоцкую газету **„Кур'ер поранны”**. Раней той жа канцэрн выкупіў акцыі іншай беластоцкай штодзёнкі **„Газета всполэчна”**.

У барацьбе з мытнай злачыннасцю на границы лідзіруе **мытня ў Беластоку**. У І палове 1994 года мытная ўправа ў Беластоку ўзбудзіла 1529 спраў (вартасцю ў 24 835 млн. зл.). Чарговыя месцы занялі мытні ў Тарэспалі (1308 спраў — 19 385 млн. зл.) і Жэпіне (861 спраў — 122 971 млн. зл.).

**У 8 гмінах Беласточчыны,** у якіх найвышэйшы паказчык беспрацоўя, выдадзена 6 млрд. зл. на публічныя работы і інтэрвенцыйныя працы. Найбольш беспрацоўных зарэгістравана ў гмінах: Бельск-Падляшскі (2565), Чорна-Беластоцкая, Дуброва-Беластоцкая, Гайнаўка, Лапы, Монькі і Саколка.

**Пенітэнцыянарнае таварыства „Патранат”** наладзіла на аўтавакзале ў Беластоку выдачу гарачага супу для найбяднейшых і бяздомных. Такой формай гуманітарнай дапамогі карыстаецца каля 30 чалавек. „Патранат” прапануе бомжам таксама душ і чыстую вопратку.




> Мітрапаліт Васілій у Бельску — рэпартаж Юры Ляшчынскага.

> Ганна Кандрацюк пра таленавітых вучняў у Малінніках.

> Міхась Андрасюк пра касмічнае значэнне смерці ката Шарыка.

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## Галоўны партнёр

„Расія застаецца галоўным партнёрам Беларусі. Наша залежнасць ад яе сёння каласальная. Зараз з Расеі мы атрымліваем 86% сыравіны, а 85% нашай прадукцыі ідзе толькі на расейскі рынак”, — сказаў прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка на пасяджэнні ўрада.

## Двайное грамадзянства

Камісія Вярхоўнага Савета па нацыянальнай палітыцы і пытаннях СНД мае намер у студзені прадставіць на разгляд парламента пытанне аб унясенні змяненняў у закон аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь. Старшыня камісіі Міхаіл Слямнёў паведаміў, што змяненні ў прыватнасці датычаць спрашчэння выхаду з грамадзянства і магчымасці двайнога грамадзянства. Пытанне аб двайным грамадзянстве можна вырашыць праз заключэнне міжнародных дагавораў на двухбаковай аснове. Распрацаваны ўжо праект такога дагавора паміж Расеяй і Беларуссю, але, як лічыць старшыня ВС Мечыслаў Грыб, увядзенне двайнога грамадзянства ў Беларусі ў бліжэйшай перспектыве мала імавернае.

## Апазіцыя крытыкуе

Апазіцыя Беларускага народнага фронту правяла прэс-канферэнцыю на тэму палітычнай і эканамічнай сітуацыі. Пасля чатырох месяцаў прэзідэнцкага кіравання, сцвярджае апазіцыя, адбылося паскарэнне развалу эканомікі. Інфляцыя павялічылася на канец верасня ў параўнанні з 10 ліпеня на 360%. Рост цэн апярэджвае рост заробатнай платы ў 14 разоў. Зроблены крэдытныя эмісіі пад выглядам крэдытавання сельскай гаспадаркі, што яшчэ больш раскруціла інфляцыю. Праведзена непрафесійная дэнамінацыя рубля. Асаблівая ўвага адведзена становішчы сродкаў масавай інфармацыі. Падкрэслена, што прэса трапіла пад жорсткі кантроль выканаўчых улад. Апазіцыя падрыхтавала зварот да прэзідэнта РБ аб прадстаўленні ёй прамога эфіру.

## Амерыканскі цэнтр

Міністэрства гандлю ЗША аб'явіла выдзяленне ўрадавай субсідыі ў памеры 1 млн. долараў на будаўніцтва і дзейнасць амерыканскага бізнес-цэнтра ў Менску. Пасол ЗША ў Беларусі Кенэт Яловіц падкрэсліў, што адкрыццё цэнтра будзе азначаць выкананне абяцання, дадзенага прэзідэнтам Білам Клінтанам у час яго візіту ў Беларусь. Амерыканскі бізнес-цэнтр будзе адкрыты ў наступным годзе.

## Вайда ў Менску

У Менску адбыліся Дні польскай культуры, а ў іх рамках шасцідзённы кінафестываль „Анджэй Вайда — яго кіно і акцёры”. У кінатэатры „Перамога” адбылася сустрэча з акцёрамі Данелем Альбрыхскім і Барбарай Вжэсінскай, на якой ішла шчырая размова пра асаблівасці польскага кіно, яго стан і праблемы. Адбылася таксама дэманстрацыя фільма „Беразняк”, у якім здымаліся гэтыя артысты. З гледачамі сустрэлася таксама Станіслава Цэліньска, якая прадставіла фільм „Пейзаж пасля бітвы”.

## Прыклад канверсіі

Незвычайная платная аўтамабільная стаянка адкрылася ў Калінкавічах. У прасторных, светлых памяшканнях свабодна размяшчаюцца 200 легкавых і 50 грузавых аўтамабіляў, прычым гаражы расфарміраванай воінскай часці арганізатарам стаянкі дасталіся бясплатна. Адначасова рамантуюцца былыя салдацкія казармы, дзе будуць абсталяваны пакоі адпачынку, а пазней і гасцініца.

## Вяртанне буржуек

„Голь на выдумкі здатная”, — так можна пракаменціраваць паведамленне аб тым, што на прадпрыемствах машынабудавання і аўтапрадпрыемствах Гомельшчыны актывізаваася нелегальная вытворчасць, а дзе-нідзе і адкрытая, пераабсталяваных на сучасны лад печаў-буржуек. Ацяпляць імі мяркуюць у асноўным вытворчыя цэхі і майстэрні, дзе не па кішэні выкарыстоўваць сістэмы ацяплення. Народныя ўмельцы прадугледжваюць таксама меры пажарнай бяспекі.

## Бронзавы медаль для мянчаніна

У Кракаве фінішаваў Чэмпіянат Еўропы па фехтаванню. У спаборніцтвах удзельнічалі і спартсмены Беларусі. Найбольш паспяхова выступіў мянчанін Дзмітрый Лапкіс. Ён заваяваў бронзавы медаль у спаборніцтвах па фехтаванню на шаблях сярод юніёраў.

## І ў выцвярэзніку дарага

Чарговы раз павысіўся кошт паслуг у менскіх выцвярэзніках. Калі ў кастрычніку пабыўка ў гэтых установах каштавала 5000 „зайчыкаў”, то ў лістападзе ўжо ўсе 10000. Аднак цана гэта народ не вельмі напалохала. У выцвярэзніку пры Заводскім РАУС у лістападзе клопатаў у міліцыянераў прыбавілася. Кожныя суткі ў гэту „гасцініцу” дастаўляюць каля 15 чалавек. „Кліентаў шмат, калі зарплаты даюць і заводы працуюць. У лістападзе справы, здаецца, пайшлі на лад”, — гавораць работнікі гэтага выцвярэзніка.

STOMATOLOG
BIAŁYSTOK ul. Malmeda 1
(róg Lipowej), 10[00]-17[00]



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Давайце супрацоўнічаць

18 лістапада гэтага года ў гайнаўскай Гарадской радзе прайшла сустрэча пасла Рэспублікі Беларусь Георгія Таразевіча з войтамі гмін і прадпрымальнікамі Гайнаўшчыны. Сустрэча адбылася па ініцыятыве Беларускага бізнес-клуба, якім кіруе сп. Юры Буcловіч і была, галоўным чынам, прысвечана гаспадарчаму супрацоўніцтву паміж Беласточчынай і Беларуссю.

Ва ўводным слове пасол Г. Таразевіч паведаміў пра палітычныя абумоўленасці адносін паміж Польшчай і Беларуссю. З прыходам новых улад, сказаў ён, адносіны гэтыя не сталі прасцейшымі, але справа зрушылася з месца. У час візіту міністра Аляхоўскага размовы ішлі на эканамічныя тэмы — было жаданне, каб адносіны паміж абедзвюма краінамі сталі больш актыўнымі. Дзеля гэтага плануецца сустрэча камісій па пытаннях прыгранічнага супрацоўніцтва. На палову снежня запланавана сустрэча прэм'ер-міністраў Польшчы і Беларусі, а ў пачатку новага года прадугледжваецца візіт прэзідэнта Беларусі ў Польшчу. Так выглядае палітычны каляндар — закончыў пасол Г. Таразевіч, а калі ідзе пра гаспадарчае супрацоўніцтва, дык яно грунтуецца на канкрэтных дзеяннях. Выказаў ён у гэтым месцы пажаданне атрымаць інфармацыю пра праблемы, звязаныя з перасячэннем мяжы, а таксама і заўвагі адносна чыста чалавечых сувязяў паміж Беласточчынай і Беларуссю.

Дыскусію пачаў Пятро Крук з Беларускага дэмакратычнага аб'яднання, які заўважыў, што пытанне пагранічных пунктаў і перасячэння мяжы павінна быць галоўнай тэмай сустрэчы прэм'ер-міністраў Польшчы і Беларусі. Пасол Таразевіч заўважыў, што самыя доўгія чэргі бываюць на мяжы з Нямеччынай, калі меркаваць па радыёкамунікатах. Намеснік гайнаўскага „Фурнелю" параіў паслу, каб прадстаўнікі пасольства паехалі на заходнюю мяжу і параўналі, як перасякаюць граніцу там і тут. Сказаў таксама і пра іншу справу. У вас, звярнуўся да пасла, шмат будуецца, але матэрыялаў і тэхналогіі небагата. Усё гэта можна дастаць у нашым прадпрыемстве, але ад нас нiхто не купляе. Чаму інтарэсы адбываюцца па-над нашымі галовамі? Хто ставіць сабе катэдж, адказаў пасол, набудзе матэрыял у любым месцы і за любую цану, а той, хто будуе домік для камунальнага выкарыстання — яму не па кішэні ваша сталярка.

Віктар Стахвюк паведаміў, што ўсе польскія фірмы, якія гандлююць будаўнічымі матэрыяламі з Беларуссю (імпарт), апынуцца незадоўга пад пагрозай спынення сваёй дзейнасці. Прычынай гэтаму — няважнасць беларускіх тэхнічных пашпартоў у Польшчы. Увесь прыбытак, сказаў ён, трэба будзе адводзіць усякім польскім атэстацыйным інстытутам.

Мікалай Бушко (радны) звярнуў яшчэ ўвагу, што сітуацыя на пагранічных пунктах з Беларуссю запыняе культурныя кантакты. Ці нельга было б, запытаў, адчыніць пагранічны пункт людзям, якія вязуць праз мяжу „ўсяго ідэю?"

Сяргей Мартынюк сказаў, што для сур'ёзнага бізнесу мяжа не з'яўляецца праблемай. У яго, для прыкладу, прапуск падпісаны міністрам унутраных спраў Беларусі. Прыемнасць гэтая, як выявілася ў ходзе дыскусіі, нібыта, каштуе 1 000 долараў.

Праз нейкі час, заявіў пасол Г. Таразевіч, СНДоўскія машыны на Захад не паедуць. Застанецца тады чыгунка або склады і перагрузка. Беларусь у выгоднай геаграфічнай сітуацыі. Дык давайце супрацоўнічаць.

Яшчэ ў гэты самы дзень пасол Георгій Таразевіч наведаў Беларускі музей, дзе сустрэўся з беларускай грамадой Гайнаўкі. У плане наступных дзён прадугледжваліся яшчэ візіты пасла ў Семяноўку, Белавежу, Чаромху і Старыну.

**Аляксандр Максімюк**

## Самароспуск ПК „Дзеці Чарнобыля"

15 лістапада г.г. адбыўся агульны сход членаў Польскага камітэта „Дзеці Чарнобыля", на якім была прынята пастанова аб самароспуску гэтай арганізацыі з прычыны вычарпання формулы камітэта.

ПК „Дзеці Чарнобыля" заснаваўся 30 ліпеня 1990 года, а ўзначаліў яго прафесар Анджэй Каліціньскі. У састаў камітэта ўвайшлі прадстаўнікі грамадскіх, у тым ліку і беларускіх, арганізацый, Праваслаўнай царквы, Каталіцкага касцёла і сродкаў масавай інфармацыі.

Найбольшую актыўнасць камітэт праяўляў у першых двух гадах свайго існавання, калі праводзілася акцыя арганізацыі пабыўкі дзяцей з забруджаных радыяцыяй раёнаў Беларусі ў беластоцкіх сем'ях. „Найбольш істотную ролю ў гэтых мерапрыемствах выконвала Праваслаўная царква", — падкрэсліў сустаршыня ПК Ежы Мушынскі, дырэктар Радыё-Беласток. Вялікі ўклад у стварэнне адпаведных умоў прабывання беларускіх дзяцей на Беласточчыне унеслі а. Аляксандр Хіліманюк з беластоцкага прыхода Усіх Святых і Віктар Стахвюк — тады сакратар ГП БГКТ. У крытычных момантах, калі групы дзяцей прыязджалі нечаканымі, без папярэдняй дамоўленасці, у размеркаванні дзяцей па сем'ях дапамагаў Каталіцкі касцёл. Адным з важнейшых мерапрыемстваў, якое арганізавалася з мэтай прыдбання грошай на статутную дзейнасць ПК „Дзеці Чарнобыля" быў канцэрт „Life", наладжаны суполкай Радыё-Бcласток і Дзіцячым клінічным шпіталем.

Пасля двухгадовай актыўнай працы дзейнасць прыпынілася. Прычынай гэтаму былі і фінансавыя клопаты, і немагчымасць заключэння дамовы з беларускім бокам. Існавала тады ў Беларусі некалькі „чарнобыльскіх" арганізацый і кожная з іх прадстаўляла розныя групы інтарэсаў. Потым зменшылася зацікаўленне адпачынкам дзяцей у Польшчы, калі пайшла большая дапамога з Захаду.

За ахвярную дзейнасць і дапамогу камітэту ўдзельнікі сходу выказалі асаблівую падзяку а. Аляксандру Хіліманюку і пакойнаму арцыбіскупу Эдварду Кісялю.

7 млн. зл., якія засталіся на рахунку ПК „Дзеці Чарнобыля", сход вырашыў пералічыць на рахунак акцыі „Дзецям з Беларусі", якая цяпер праводзіцца Гмінай радай нарадовай у Дубічах-Царкоўных.

(л)

# На зладзеі шапка гарыць

Так гаворыць старая і мудрая пагаворка. Я ўжо пісаў у „Ніву", як ласы некаторыя людзі на чужое дабро, калі не хочуць аддаваць памылкова пераплачаныя грошы. Здараюцца аднак і такія „мастакі", якія самі свіснуць паперку табе з-пад носа. У гэтым годзе здарылася тры такія выпадкі, калі мяне абакралі.

Вясною адзін пенсіянер абакраў мяне на 500.000 злотых. Не сварыўся я з ім пасля і не лаяўся, толькі далікатна звярнуў увагу, што ён мне зло ўчыніў. Ён да майго закіду не прызнаўся, але „шапка на ім загарэлася", бо даўжэйшы час не мог глядзець мне ў вочы, хаця пазней прывык. Другі выпадак пакражы на маю крыўду здарыўся летам, толькі гэтым разам па-дугому „на зладзеі шапка гарэла": стаў ён мне аддаваць вялікія паклоны, хаця дагэтуль мяне не пазнаваў. Гэтая „павага і пашана" каштавала мяне круглы мільён. Трэці выпадак здарыўся на пачатку лістапада ў хаце аднаго сумленнага пенсіянера. Была ў яго госця з Гайнаўкі. Я паклаў гаспадару на стол цэлую пенсію — 3.800 тысяч зл. Ён пералічыў — усё згаджалася, трэба было толькі выдаць мне малую рэшту. Не паспелі мы адхіліцца ад стала, як адзін мільён прапаў. Мы з гаспадаром, замест узяцца за госцю, пачалі таго мільёна шукаць пад сталом. Нічога не знайшоўшы, гаспадар сказаў: „Найхутчэй ты, Мікалай, пералічваючы некалькі разоў маю пенсію, няхочучы, машынальна ўсунуў той мільён у свой кашалёк". Я паверыў і далажыў яму новы мільён. А пры канцы працоўнага дня мне гэтага мільёна і не хапіла. А тая госця даўно ўжо ў Гайнаўку паспяшала. Даведаўся я пазней пра яе другія цёмныя справы і нікчэмныя паводзіны. А яе сыны з турмы не вылазяць — яблыка ад яблыні далёка не адкоціцца. Што ж, пры цяперашнім дзікім польскім капіталізме зладзеі вырастаюць як грыбы пасля дажджу і не верыцца мне, што на Захадзе, дзе галоўным ідэалам капітал, іх няма. Ды і ў камуністаў, дзе галоўным ідэалам былі Ленін і Сталін, таксама ніхто не грэбаваў грашыма.

**Мікалай Панфілюк**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ

Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы паведамляе, што апошнім часам змяніліся назва і банкаўскі рахунак нашай арганізацыі.

Выказваем сардэчную падзяку ўсім тым, хто да гэтай пары падтрымоўваў нас матэрыяльна ды духова і, паведамляючы новыя каардынаты, спадзяемся на далейшае супрацоўніцтва.

Цяпер назва камітэта гучыць: **Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы**, а фінансавыя ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежных валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP, Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Нагадваем таксама наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 3016.

**Грамадскі камітэт пабудовы МіАБК у Гайнаўцы**

# Забыцца пра маці

— Мінула ўжо пяць месяцаў, а ён нават не папрасіў у мяне прабачэння. І шыбу ў акне, што патоўк, не бярэцца ўставіць, — гаварыла перад судом пакрыўджаная Валянціна Б.

Яраслаў Саладуха месяцы тры як вярнуўся з арміі. У наваколлі быў вядомы як таленавіты механік. „Не было такой машыны, якую б ён не наладзіў", — гаварылі людзі з Ж.

13 мая ўсіх ашарашыла навіна. У вёску наехала паліцыі.

### Дзень раней

было свята і за механіку Саладуха не браўся. Да змяркання аглядаў новыя відэафільмы. Недзе а дзевятай сорак задумаў наведаць сяброў з суседняй вёскі. У Ж. Саладуха ў кампанію не прыставаў. „П'юць ды валяюцца за склепам", — мяўляў ён. Затое ў суседнім Радвіне хлопцы не тыя — культурныя і цікавыя. Балазе сёння там мерапрыемства і Люцыян Радвіньскі запрашаў яго ў госці. Да Люцыяна завіталі яшчэ Рышард і Вальдэмар Радвіньскія. Спачатку ўсе культурна цадзілі праз зубы піўцо. Далей задумалі пайсці ў прыдарожны „заязд", што пры шашы Сямяцічы—Гарнова. Там перакінуліся на разведзены какаколай спірт.

— W trakcie picia prowadziliśmy luźne rozmowy na różne tematy, — сведчыў Люцыян Радвіньскі. — Калі апаражнілі бутэльку, Яраслаў пачаў вар'яцець. Саладуха пачаў наракаць, што ніхто яго не любіць. Казаў, што ёсць у яго дзяўчына, недзе пад Бельскам, але яна яго не кахае. Хваліўся, што будучы ў арміі, даслужыўся „капрала". А з намі не будзе размаўляць, бо мы — „шляхта". Потым адбег ён у лес і пачаў енчыць. Мы да яго, а ён павесіўся на паяску. Хаця мы безупынна яго пільнавалі, то вешаўся ўжо тры разы. Сілай цягнулі яго ў Ж. А ён усё ўцякаў і рваўся, або клаўся на асфальт і плакаў, што нага паламаная. Я вырашыў спыніць машыну і завезці Саладуху ў бальніцу. Ён на момант абсеў. Але пачаў вар'яцець Вальдэмар. Ён таксама задумаў павесіцца. Па кароткай бойцы хлопцы кінулі вешанне і, аб'яднаўшыся, спявалі вайсковыя песні. На скрыжаванні мы развіталіся і кожны пайшоў у свой бок, тлумачыў. — Nie wiem co mu odbiło, by brać kobietę na siłę.

### Была якраз поўнач.

У Ж. усе спалі. Хатка стаяла ў канцы вёскі. Саладуха ўлез на лаўку і пачаў стукаць у акно самотнай удавіцы.

— Хто там? — папыталася адчайная Валянціна Б., 67-гадовая пенсіянерка.

— Свой.

— Які свой?

— Сусед. Што ты мяне баішся, — прашаптаў

### Саладуха.

— С.. адсюль, бо пайду на паліцыю!

— Як не адчыніш, то акном улезу!

— Чаго табе ад мяне трэба?

— Хачу з табой пераспацца.

— Што я твая нарачоная, ці каханка? Ідзі да маладой.

Тады Валянціна Б. выскачыла на панадворак і пачала вішчаць. Суседзі ўсё чулі, але старэчы баяліся. Саладуха злапаў жанчыну і завалок яе ў хату. У горла ўсадзіў кулак. Паваліў удавіцу на разбэрсаны ложак і хутка асягнуў сваю мэту. Пасля ўсяго пачаў душыць жанчыну.

— Толькі не ідзі на паліцыю, бо я сядзець за цябе не пайду, — страшыў Саладуха.

— І ён пайшоў, а я да раніцы плакала. Нават яго не кусала, бо зубоў не маю, — гаварыла бабка.

Яраслаў Саладуха

### тлумачыўся ў судзе:

— Пайшоў да Валянціны Б., бо ведаў, што ходзяць там „патрабуючыя" мужчыны. Цётка Валя сама мяне прыняла і спакусіла. Па каханні назвала мяне „галубчыкам" і пацалавала ў вусны. Сказала, што калі захачу прыйсці яшчэ раз, то яна мяне чакае. Запэўніла, што нікому не скажа, бо людзі пра яе скажуць, што яна к... Калі я гаварыў, „што хачу з табой пераспацца" то меў на думцы толькі паляжаць побач цёці Валі. Зараз шкадую ўсяго, — сказаў абвінавачаны Саладуха.

Адмовіўся ён таксама ад гарэлкі. Неўзабаве думае жаніцца.

### — Пастаянна жыву ў страху.

Баюся, што ён зноў да мяне прыдзе. І не так смерць страшная, як сённяшні свет. Яму ж толькі 25 гадоў, — плакала старая.

Валянціна Б. нарадзіла 11 дзяцей. Усе яны раз'ехаліся па гарадах. Муж павесіўся.

**Г. Кандрацюк**

P.S. Імёны, прозвішчы, а таксама назва „шляхецкай" вёскі па зразумелых прычынах зменены.



© PDF: Kamunikat.org 2016
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Помнік братам Булак-Балаховічам

11 лістапада, у дзень Свята Незалежнасці Польшчы, адбылося ўра-чыстае адкрыццё помніка Станіславу і Юзафу Булак-Балаховічам ды іхнім жаўнерам-балахоўцам. Помнік узведзены па правым баку шашы з Гайнаўкі ў Белавежу, пад Гарой Баторыя.

У 1923 г. у гэтым месцы забіты быў Юзаф Булак-Балаховіч. Паколькі з асобай Станіслава Булак-Балаховіча, забітага гестапа ў 1940 г. у Варшаве, чытач мог пазнаёміцца з майго аб'ёмістага гістарычнага эсэ („Ніва" н-р 37—43 ад 1992 года), раскажу толькі пра жыццё і лёс ягонага малодшага брата Юзафа.

Нарадзіўся ён у 1894 г. у маёнтку Стакапіёва, што на Браслаўшчыне, які арэндаваў яго бацька Нікадым. Беларус-католік.

У 1914 г., будучы яшчэ вучнем сярэдняй сельскагаспадарчай школы ў Коўні, добраахвотна ўступіў у расійскую армію і прыкамандзіраваны быў у 53 Запасную дружыну ў Полацку. Франтавую службу пачаў у 222 Краснаярскім стралковым палку. Пад Шырвінтамі ранены быў у руку і кантужаны ў абедзве ногі. Лячыўся ў шпіталі ў Коўні. За баявыя подзвігі ўзнагароджаны Георгіеўскім Крыжом 4 кл. Падчас знаходжання ў шпіталі адкамандзіраваны быў у II Лейб-уланскі полк. На пачатку 1915 г. яго адправілі ў школу ў Араненбург. Пасля чатырох месяцаў навукі назначаны прапаршчыкам. У красавіку перайшоў у 7 Рэвельскі стралковы полк, дзе служыў да паловы мая 1916 г. У гэтым палку даслужыўся звання малодшага лейтэнанта і ўзнагароджаны быў таксама за храбрасць Ордэнам св. Анны 4 кл, Ордэнам св. Станіслава 3 кл. ды зноў Ордэнам св. Анны, гэтым разам 3 кл.

У маі 1916 г. пераведзены быў па сваёй просьбе ў конны атрад асобага назначэння пры галоўнакамандуючым Паўночнага фронта, у якім служыў ужо яго брат Станіслаў. Атрад, які ад прозвішча свайго камандзіра называўся атрадам Пуніна, дзейнічаў на тылах нямецкіх войск на фронце пад Рыгай. Прымаліся ў яго састаў выключна смелыя і вопытныя жаўнеры, з веданнем мясцовых моў. Пунінаўцы так надакучылі немцам, што тыя не бралі іх у палон, катавалі іх насмерць і вешалі нават іхнія трупы. Каб не папасці жывымі ў рукі немцаў, пунінаўцы насілі зашытыя ў мундзір ампулы з цыяністым каліем. Ад гэтага пачалі называцца „рыцарамі смерці". Юзаф і ў гэтым атрадзе вылучаўся смеласцю. У студзені 1917 г. зноў быў ранены і прабыў у шпіталі амаль тры месяцы. У часе службы ў атрадзе Пуніна атрымаў званні лейтэнанта і неўзабаве падротмістра. Узнагароджаны быў таксама Ордэнам св. Анны 2 кл, св. Станіслава 2 кл. і св. Уладзіміра 4 кл.

У кастрычніку 1917 г. перайшоў ён з атрада Пуніна ў польскія вайсковыя фарміраванні. Дзейнічаў у Пскове, а пасля ўступіў у Польскі уланскі дывізіён у Петраградзе. Пасля расфармавання дывізіёна бальшавікамі, перабраўся ў Лугу, дзе Станіслаў арганізаваў конны партызанскі полк у Чырвонай Арміі. Восенню 1918 г. разам з братам перайшоў да „белых". У арміі ген. Юдзеніча атрымаў чын падпалкоўніка, а пасля палкоўніка. Узнагароджаны быў шабляю св. Георгія і Ордэнам св. Уладзіміра 3 кл.

Пад канец 1919 г. атрад ген. Станіслава Булак-Балаховіча перайшоў на службу Беларускай Народнай Рэспублікі. Юзаф дзейна супрацоўнічаў з братам у падрыхтоўцы пераходу атрада ў Беларусь. Паколькі Беларусь займалі ў тым часе бальшавіцкія і польскія войскі, Асобны атрад БНР ген. С. Булак-Балаховіча, згодна з дамовамі з польскім галоўным камандаваннем, перайшоў у сакавіку 1920 г. у Дзвінск, а пасля ў Берасцейскую крэпасць.

Пад канец чэрвеня атрад, які называўся „беларускай групай", кінуты быў на супрацьбальшавіцкі фронт на Палессе. Паколькі Станіслаў праводзіў шмат часу па-за фронтам, займаючыся палітыкай, падчас яго адсутнасці фактычным камандзірам атрада з'яўляецца Юзаф. Гэта ён правёў налёты на бальшавіцкія тылы (м. інш. на Малін і, самы вялікі з усіх, на Оўруч. 11 ліпеня ўпотай падвёў ён эскадрон балахоўцаў і добраахвотнікаў з Падгалянскай дывізіі пад Оўруч і раніцай уварваўся на вуліцы горада. Захопленыя знянацку бальшавікі здолелі арганізаваць адпор у будынку мясцовага Чэка і прывіталі балахоўцаў кулямётным агнём. Тыя закідалі іх ручнымі гранатамі і бальшавіцкае супрацьстаянне было здушанае. Атрад палкоўніка Юзафа Булак-Балаховіча ўзяў гарматы і 30 кулямётаў ды вызваліў таксама з казематаў Чэка шмат зняволеных. Падчас адвароту адбіў яшчэ пагоню праціўніка.

Атрад ген. Балаховіча адступаў з польскімі войскамі ажно да Уладавы, пасля чаго прыняў удзел у контрнаступленні, падчас якога прарваў фронт бальшавіцкай 3 арміі і самастойна ўзяў Пінск. Падчас здабыцця гэтага горада адзначыўся і Юзаф Булак-Балаховіч.

Восенню 1920 г. ген. Ст. Булак-Балаховіч узначаліў Добраахвотніцкую Саюзную Армію. Гэтая армія створаная была Рускім і Беларускім Палітычнымі камітэтамі паводле задумы Ю. Пілсудскага. На пачатку лістапада армія ген. Булак-Балаховіча пачала наступленне на бальшавікоў на беларускім Палессі і ўзяла Мазыр, Калінкавічы і Петрыкаў. Яе перадавыя атрады дайшлі да Дняпра пад Рэчыцай. У сваёй часовай сталіцы, Мазыры, ген. Ст. Булак-Балаховіч стварыў урад Беларускай Народнай Рэспублікі, які абвясціў яго Начальнікам Беларускай Дзяржавы.



*Варшава, 1920 г. Сустрэча з Рускім палітычным камітэтам. На першай ступені (злева): Юзаф Балаховіч, Барыс Савінкоў і Станіслаў Балаховіч.*



*На помніку змешчаны надпісы: „Pamięci bohaterskich Białorusinów. Generała Stanisława Bułak-Bałachowicza, dowódcy Sprzymierzonej Armii Ochotniczej 1920, obrońcy Warszawy 1939. Zginął z rąk gestapo w 1940 r. Generała Józefa Bułak-Bałachowicza, dowódcy kawalerii SAO, zamordowanego w tym miejscu przez NKWD w 1923 r. Wiernym w walce „Za Naszą i Waszą Wolność" żołnierzom „bałachowcom". TPPBiZH, 1994."*

Юзафу, якому прысвоілі чын генерала, перададзена было камандаванне рускімі атрадамі.

Палескі паход Булак-Балаховіча скончыўся непазбежным паражэннем ягонай арміі, якая не магла выстаяць пад напорам намнога мацнейшых дывізіяў Чырвонай Арміі. Пасля адступлення на польскую тэрыторыю балахоўцы былі інтэрнаваны. Для братоў Балаховічаў пачаўся цяжкі час. У 1922 годзе польскі ўрад згодна з дамовай Карахан—Домбскі вырашыў выдаліць з межаў Польшчы Станіслава Булак-Балаховіча. Палітычны скандал, які ўзнік пасля гэтага, скончыўся адстаўкай міністра замежных спраў Домбскага. Пацярпеў таксама Юзаф. Быў ён нават арыштаваны разам са сваім бацькам, які памёр неўзабаве ад перажытых хваляванняў.

Супраць Балаховічаў выступілі таксама беларускія палітычныя сілы, арыентаваныя на супрацоўніцтва з Нямеччынай і Літвою, а пасля з Савецкім Саюзам.

У 1921 г. у Празе Чэшскай адбылася палітычная нарада беларускіх арганізацый, якая запатрабавала ад генерала Ст. Булак-Балаховіча апраўдання за ягоную дзейнасць. Як можна меркаваць, апраўданнем мела быць ягоная згода ўзначаліць супрацьпольскае паўстанне, якое рыхтавалася тады ў Заходняй Беларусі. Станіслаў рэзка адказаўся ад гэтай прапановы, сцвярджаючы, што паўстанне залье крывёю Заходнюю Беларусь, што будзе на карысць толькі саветам. Пасля гэтага пачалося сапраўднае паляванне на галовы Балаховічаў. Праведзеных было некалькі замахаў на жыццё абодвух братоў. Дачка Юзафа па сённяшні дзень захоўвае ягоны партсігар, перастрэлены куляй замахоўца.

Лёс Юзафа дапоўніўся ноччу з 12 на 13 чэрвеня 1923 г. Абодва браты жылі тады ў Белавежы, дзе Станіслаў вёў фірму, якая займалася вывазам драўніны з пушчы. Працавалі ў ёй былыя жаўнеры-балахоўцы. Браты Балаховічы збіраліся ехаць па сваіх справах у Гайнаўку. Конь Станіслава паклаўся на зямлю і ніякім чынам не можна было яго падняць. Тады Станіслаў вырашыў не ехаць. Дзякуючы свайму легендарнаму каню, яшчэ раз выкруціўся ад смерці, якой не пазбег Юзаф.

Разам з трыма спадарожнікамі адправіўся ён фурманкай у Гайнаўку. За паваротам каля Гары Баторыя перанялі іх нейкія людзі. Першы з іх пасвяціў электрычным фанарчыкам проста ў твар Юзафу і спытаўся: „Каторая гадзіна?" „Спярша забяры святло", — адказаў Юзаф. У гэты момант раздаўся стрэл. Куля трапіла Юзафа проста ў твар і забіла яго на месцы. Забойцы схаваліся ў лесе. Таварышы Юзафа прабавалі яшчэ везці яго ў Гайнаўку, але пераканаўшыся ў ягонай смерці, паклалі яго на ўзбоччы, дзе праляжаў да раніцы, калі яго акрываўленае цела перавезена было ў Белавежу. Юзаф Булак-Балаховіч быў урачыста пахаваны на могілках у Белавежы.

Як паказала следства, віноўнікамі забойства былі мясцовыя камуністы Байко і Ляўчук, якія за атрыманыя ад Камінтэрна грошы нанялі двох браканьераў, палякаў Бартосяка і Арцішэўскага, якім сказалі, што „трэба забіць кацапаў". Афіцыйна называлася гэта выконваннем прысуду „за здраду беларускай справы".

На месцы забойства пастаўлены быў драўляны крыж, які з часам спарахнеў і паваліўся. Некалькі гадоў таму зніклі нават ягоныя рэшткі, у сувязі з чым вельмі цяжка было ўстанавіць цяпер, дзе ён стаяў. Знікла з часам таксама і магілка Юзафа. Пасляваенны час не спрыяў дбайнасці пра памяць аб „ворагах народа".

Толькі нядаўна сям'я братоў Булак-Балаховічаў аднавіла магілу Юзафа ў Белавежы. Узнікла таксама задума аднавіць помнік на месцы ягонага забойства. Інжынер Уладзімір Паскробка скантактаваў унука Станіслава, Мацея Булак-Балаховіча, з Казімежам Кубацкім, старшынёй аддзела Камітэта аховы помнікаў пакутніцтва. Дзякуючы ягоным стараннем, Камітэт, сумесна з Таварыствам сяброў Белавежскай пушчы і Гайнаўскай зямлі, выступілі як фундатары новага помніка па праекту вядомага гайнаўскага мастака Віктара Кабаца.

У некалькі месяцаў (ад красавіка, калі ўзнікла задума) праект быў ажыццёўлены. Помнік атрымаўся вельмі прыгожы. Мастацкі эфект дасягнуты быў простымі сродкамі: між двумя камянямі з надпісамі ўзвышаецца просты жалезны крыж; навокал помніка сціплая агароджа з бярозавых бярвенняў.

І вось апоўдні 11 лістапада на паўгадзіны спынены быў рух на шашы між Гайнаўкай і Белавежай. Ля помніка стала ганаровая варта і сцяганосцы са штандарам. Пад помнікам сабраліся жыхары Гайнаўкі і Белавежы, у тым ліку школьнікі ды афіцэры і жаўнеры.

Спярша малітву за душы загінуўшых павялі сумесна праваслаўныя і каталіцкі святары. Ніжэйпадпісаны прадставіў гісторыю жыцця братоў Булак-Балаховічаў. Пад помнікам ускладзены былі вянкі і кветкі, гарэлі зніччы. Ад імя сям'і генералаў падзякавала стваральнікам помніка і ўсім прысутным Габрыеля Дважэцкая, дачка Юзафа, якая прыехала з Познані. У святкаванні ўдзельнічаў таксама Мацей Булак-Балаховіч, унук Станіслава.

На канец Віктар Кабац папрасіў усіх прысутных, каб не забывалі гэтае месца і мінаючы яго, затрымаліся і ўспомнілі братоў-герояў. Гэтым і я далучаюся да ягонай просьбы.

**Алег Латышонак**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

**БЕЛАВЕЖА**

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 419*

*Рэдактар: Сакрат Яновіч*



*Надзея Артымовіч. Бельск, 7.XII.1979 г.*

*Першы верш Надзеі Артымовіч з'явіўся ў друку, на старонках „Нівы", 5 красавіка 1970 г. Лічы, чвэрць веку назад. У апошні з сямідзесятых гадоў — зборнік, якраз у перакладзе на польскую мову небезвядомага Яся Леанчука. Затым — „Роздумы" ў 1981 г. і „Сезон у белых пейзажах" (1990). Зусім жа нядаўна, супольна з Алесем Разанавым: „Дзверы". З гутаркі пра гэту інтрыгуючую кніжыцу і пачаўся семінар „Белавежы" 29 кастрычніка, прысвечаны юбілею паэтэсы.*

*Надзея Артымовіч*

* * *

*і нічога не здараецца*

*усё часцей мне сніцца драўляная сцяна*
*у чужой хаце*
*невыразны цень*
*і я на блакітным парозе*

*усё ў блакіце*
*вечар як у Чэхава*
*старыя гадзіннікі*
*лёгкасць фіранкі*
*акцёры ў здзіўленні*

*на старамодным стале ружа*
*і толькі чую шэпт*
*паміж каханнем і каханнем*
*сніць белая ружа*

*1994 г.*

*Сакрат Яновіч*

## Надзя, якая запамяталася

Пра яе вершы пішуць і будуць пісаць. Я — пра саму Надзю, пра такую яе, якую ведаў і ведаю.

Чытаючы некалі, час-часом, публікаваныя Валкавыцкім Надзіны тэксты, чуў: аўтарка закончыла беларускую філалогію ў Варшаве, што само сабою ўяўляла некаторую сенсацыйнасць. Кафедра гэтая не мела і не мае славы нам кузні інтэлектуальнае эліты, хоць чакалася ад яе такое ролі, акрамя элементарнай, г.зн. рыхтавання настаўнікаў роднай мовы. Зрабілася асяродкам фалькларыстаў, што, таксама, не пазбаўлена сэнсу, калі памятаць пра настойлівасць, з якою беларуская нацыянальная меншасць імкнецца да моўна-культурнага самагубства.

Год Надзінага дэбюту — 1970 — быў, адначасна, годам, ад якога рушыўся адміністрацыйны наступ на беларускую дзейнасць, рэдукцыю яе да паказухі. Банальна вядомыя цяпер падзеі, з імёнамі іх аніматараў; нагадваю пра іх дзеля кантэксту часу. Благія тыя чуткі ўстрывожылі Надзю не адразу і хутчэй у іранічна-меланхалійным плане. Маючы яна за сабою т.зв. беларускі ліцэй, а затым і спомненыя філалагічныя студыі як своеасаблівы працяг тых жа ліцэйскіх парадкаў, адсутнасці нацыянальнага выхавання, яе нічога не здзіўляла ў нашай Сяляніі.

Надзя гнявіла! Колькі ні памятаю Надзю, заўсёды выбівала мяне з каляі спакойнае цярплівасці сваімі яна лёгкімі адносінамі да лёсу ўласных твораў. У яе характары нешта з Хлебнікава, які напіхаў быў свежанапісанымі вершамі палатняную торбу, каб падрамаць на ёй у купэ вагона маруднага расійскага цягніка.

Добрым духам для Надзі ў першапачатковыя ёй сямідзесятыя гады бываў Юры Туронак, класна выхаваны на еўрапейца сын падвіленскага лекара і заходнебеларускага адраджэнца. Шчасліва асеўшы на варшаўскай Тамцы і ажаніўшыся з рыбалаўскай настаўніцай Зінай, яго кватэра пераўтварылася ў нешта кшталтам маладабеларускага салона, куды сыходзіліся — не без аглядкі за сябе на вуліцу — і старыя недабойкі з сібірскіх вывазак. Юрка, гэты адукаваны эканаміст, выяўляў дзівосную схільнасць да гісторыі і культуры Беларусі. Пазнаёміўшыся з Надзяй, ён зразумеў: каб не пагінулі яе вершы, трэба іх проста забіраць ёй і захоўваць, зацікаўляць імі „Ніву" і інш.

Жылося ёй у сталіцы нясоладка, зарабляючы ў даросласць грошы мінімальныя з мінімальных. Дабрабыт, зрэшты, не трымаецца такіх людзей. У 1979 годзе вярнулася ў Бельск-Падляшскі, да маці ў парахнеючай местачковай руіне, што цямнела недзе ўзбоч ад Міцкевічавай вуліцы (таго месца, вось, не пазнаць ані тае вулачкі!). Я акурат знаходзіўся на высокай хвалі грамадскай удачы, як мне наіўна здавалася, трэці год ужо вядучы Літаратурны клуб у Беластоку. Узрадаваны з'яўленнем Надзі ў ім, палічыў, што маім, нават функцыйным, абавязкам будзе не толькі пераняць Юркаву ролю стымулятара ў яе жаданні пісаць, у змаганні з абрыдлым яе рэагаваннем *А калі не хочацца!* Яся Леанчука не безвынікова інтрыгаваў польскім перакладаннем, з чаго неўзабаўку склалася цалкам прыстойная кніжыца, выдадзеная пад эмблемаю Саюза польскіх пісьменнікаў. Не мая заслуга, а Ясева.

Мая, можа быць, у тым адно, што ўдалося паратаваць Надзю ў бытавых праблемах, са штатнаю работаю ў Бельску і з кватэраю. Цяперашнім момантам тое аказалася б *marzeniem ściętej głowy*. У тую камуністычную дарэмшчыну ўлады пранізваў комплекс Госпада Бога, безапеляцыйнага распарадчыка манны з неба. Надта свярбела беластоцкаму партыйнаму камітэту паказаць сябе перад геркаўскай Варшаваю надзвычайна ўдачлівым (памятайма пра тадышні культ удачы і ўдачы, за ўсякую цану!). Беласток меўся быць зіхацеючай рэплікай сталіцы: свой універсітэт, свой пісьменніцкі саюз, свой фестываль... Доўгі спісак, але без тае пары шмат-чаго не было б, а напэўна не ўдастоілася б вечна-безграшовая Надзя нармальных жыллёвых варункаў, не дабілася б, нягледзячы на невядома як высокія сувязі (былі яны тады больш вартымі за тугі кашалёк).

Можна сказаць і так: пашанцавала ёй са сваімі матэрыяльнымі бедамі папасці, ну, на дзевятую хвалю ў рэгіянальных амбіцыях будаўнікоў *яснага заўтра*. Пасля адбываўся толькі спад, але яшчэ не прыходзіла ў галаву, што... народнаму шчасцю пад кіраўніцтвам па-апостальску беспамылковай партыі наканавана ўсяго дзесяць, канчальна кампраметуючых ідэю, гадоў.

Супрацоўніцтва з Надзяй нявыказна пакутлівае! Ёй усё штосьці перашкаджае стрымаць абяцанне, не кажучы пра так сур'ёзныя акалічнасці, як заканчэнне працы над спадзяваным вершам, што і сам я нячэрства разумею. З яе тыповы паэт, кандыдат у клашарды, чалавек творчае кандыцыі, якая прыводзіць сабою на думку аўру пагоды: працягла грыміць ды бліскае, нічога не падае, вятрыска круціць пыл на дарозе, а самы прыгожы дождж возьмецца сыпаць і сыпаць серабрыстымі кроплямі ў найменш чаканую хвілю, знянацку і нядоўга... Быццам цуд на зялёным дубе ў язычніцкім гаі.

Самотнасць як важная ўмова паэтычна-прадуктыўнай канцэнтрацыі. Надзя па-дзявочаму кепска пераносіла адзіноту, хоць і гаваркі натоўп ёй не адпавядаў. Улюбёная ёю таварыская поза — гэта ціхмана цямнець у кутку, з кубкам кавы або чаркай віна. Яе аўтарскія вечары, сустрэчы, нязменна адбываліся на мяжы катастрофы! Публіка не дзеля таго прыходзіць, каб слухаць і глядзець маўчанне вершапісца. Чытае Надзя звычай мала, яшчэ меней тлумачыць або распавядае. Асабістая некамунікатыўнасць прычына таму, што людзі шырэй не ведалі пра яе, хаця прозвішча чулі і тэксты сяк-так асацыяваліся ў інтэлігентнай памяці.

Надзеі Артымовіч патрэбны быў каментатар, рэцэнзент, літаратурны крытык. Іх не было наогул. Лёс творчасці Надзі сумна ілюструе нам драматычную інваліднасць самога літаратурнага працэсу тут, не прычакалі мы ў асяроддзі „Белавежы" таленту крытыка, прынамсі сярэдняе рукі. Без яго творца павісае між небам і зямлёю, не сустракаецца з парытэтным супрацівам ды ацэнкаю, і чым прымітыўней рыфмуе, тым лепей падабаецца ён усякай газетнай чэрні. Урэшце падпадае пад дэмаралізацыю, апускаецца ў саладосць самаздаволенасці, знікаюць у ім рэшткі натуральнага самакрытыцызму, і паяўляецца ва ўсёй хворай красе чарговы *гмінны геній* або *вясковы Пушкін* (не ў крыўду вялікаму пану Аляксандру Сяргеевічу).

Надзя піша так, як бы не давялося ёй графаманіць. Панічна баіцца выпусціць са сваіх рук твор, які не дарэшты здавальняе яе (так і ў гэты раз: ледзь выхапіў беззагалоўкавы *і нічога не здараецца*. Нехта напісаў нядаўна пра Максіма Багдановіча, што ў яго спадчыне няма выбраных твораў, усе яны як выбраныя, на тым жа ўзроўні мастацкасці.

Наша перыферыйнае існаванне на кругах ад эпіцэнтраў літаратуры дало той скутак у выпадку Надзеі Артымовіч, што сапраўднае адкрыццё яе паэтычнага слова здзейснілася з жалюгоднай запозненасцю, аж у дваццаць пятую гадавіну дэбюту. Адкрыўцам тым стаўся знакаміты Алесь Разанаў з Менску, а ўданым літаратурным сватам — бельскі тубылец, паэт і прафесар навук Ян Чыквін. Спатрэбілася чвэрці стагоддзя.

Рытм эпохі абумоўлівае паводзіны чалавечае адзінкі. Дэкада ген. Ярузельскага, *аўтара* ваеннага становішча ў краіне, і прыход затым (невыразнага) капіталізму развалілі дашчэнту папярэднюю канструкцыю жыцця творчых асяроддзяў. Як у краявідзе пасля бітвы, капцілі галавешкі і бразгацела параскіданая непатрэбшчына. Аб'яднанне „Белавежа" перанесла гэты землятрус, аднак, досыць бясшкодна, а нават пакарыстаўшыся безгалоўем дзеля атрымання юрыдычнай самастойнасці, вылазячы такім чынам з-пад патрыярхальнай тыраніі адзінаслушнага Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Ці Надзі было таксама лягчэй? Думаю, што так. Надышлі гады неправдападобнай ажыўленасці, тры-чатыры, і гэта ўжо канчаецца па законе сінусаідальнага пульсу культуры. Семінары ў нас перасталі быць рэдкай падзеяй; кніжкі выходзілі амаль штомесяц; з'езды „Белавежы" праходзілі без, звычаёвай некалі, штучна-радаснай літургіі і пропаведзяў, якія ўважліва слухалі мы і ніхто не чуў.

Змянілася ў нечым і Надзея Артымовіч, хоць ні цяпер, ані раней не наглядалася ў яе актыўных адносінаў да грамадскіх спраў, у іх ліку і да перыпетыяў самое „Белавежы". Такі ў яе характар: радавацца добрым, смуткаваць ад дрэннага, спадзявацца на лепшае. Трываць! Без эйфарыі, але і без расчараванняў. Мяне калісьці злавала яе ўсё начэкванне, філасофія быту ў цені мецэната. Але, з гэткае ўжо далечыні пройдзенага, не раз падумаецца, вось: а ці не так павінен жыць паэт? Пад купалам неба. У вечным?

І, ці не аўтарскае гэта шчасце Надзі ў тым, што не пранізвае яе навылет прафесарская самасвядомасць уласнага магчымага і немагчымага?

*Ян Чыквін*

## Важкі факт — дзверы

У палове кастрычніка г.г. выйшла з друку новая паэтычная кніга Надзеі Артымовіч. Мае яна загаловак *Дзверы*. Вось такое, здавалася б на першы погляд, зусім не паэтычнае слова выбрана для прэзентацыі гэтай кнігі аднак не выпадкова.

Пазнаючы і асвойваючы прастору прыроды, чалавек — ад непамятных часоў — гэту асвоеную прастору заўсёды неяк зазначаў: альбо будаваў вакол яе муры, альбо абцягваў калючым дротам, альбо (калі меў дачыненне з меншым участкам) ставіў няхітры плот ці сцены. І ўсё роўна, ці гэта была прастора дзяржавы, ці прастора горада, парку, саду, панадворка, ці прастора якой-небудзь хаты — усе яны мелі свае граніцы, свае сцены, свае агароджы. Прасторы тыя былі зачыненыя такім чынам. І ёсць зачыненыя, у пераносным сэнсе. Зачыненая прастора характарызуецца, у адрозненне ад прыроды, што ляжыць па-за тым ачалавечаным абшарам, своеасаблівай упарадкаванасцю, структурнасцю, скампанаванасцю. Інакш кажучы, пераўтвараючы першасны, прыродны свет, чалавек стварае сабе другі — у выглядзе культурных аб'ектаў. Такімі культурнымі аб'ектамі з'яўляюцца і дзяржава, і горад, і парк, і панадворак, і хата. Усе яны, так ці інакш, зачыненыя і ўвайсці ў іх складанае нутро можна толькі праз вузкія, кантраляваныя праходы — праз мытню, вароты, трыумфальную арку, звычайную браму, ці брамку: словам, праз дзверы.

Ужо на гэтым прыкладзе бачым, што *дзверы* — гэта і цалкам рэальныя дзверы, і сімвалічныя, адначасна. Кожныя *дзверы* рэзка-выразна аддзяляюць два светы, дзве сферы — сферу прыроды ад сферы культуры. Аддзяляюць, але і спалучаюць. Каб пазнаць свет культуры, трэба ўвайсці ў яго. Незаўважальна для саміх сябе, механічна мы адчыняем такія дзверы ў свой дом або ў чужы. Таксама не задумоўваючыся мы праходзім праз браму ў сад або ў парк. Але ўжо трэба вялікага ўмельства і ведаў, каб прайсці праз дзверы ў больш складаныя, духоўныя аб'екты культуры, якія таксама ж стварае чалавек — напрыклад, у музыку, у жывапіс, ці ў мастацкую літаратуру.

У культуры вось так разуметыя *дзверы* і вытворныя ад іх паняцці маюць вельмі разгалінаваныя сімвалічныя значэнні.

З гэтымі значэннямі якраз і пераклікаецца загаловак зборніка Надзеі Артымовіч.

Творчасць гэтай паэткі — з'ява досыць герметычная. Увайсці ў яе паэтычны свет не кожнаму ўдаецца. Між іншым таму, што маем дачыненне з умоўнымі дзвярыма. Дзе ж яны?

З дапамогай чытачу прыадчыніць тыя дзверы ў свет паэзіі Надзеі Артымовіч ідзе іншы беларускі паэт. Вось таму ў зборніку *Дзверы*, паралельна з вершамі Артымовіч, змяшчаецца спроба іх прачытання Алесем Разанавым.

Кніга *Дзверы* — унікальная і па сваёй задуме, і па выпаўненню. Яна можа спрыяць разуменню Паэзіі наогул.

---

Надзея Артымовіч, Алесь Разанаў, *Дзверы. Тэкст і кантэкст*, Беласток 1994. Бібліятэчка Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа", кніжка адзінаццатая.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Зорка
## старонка для дзяцей

## СНЕЖАНЬ

Апошні месяц года на старажытным посудзе-календары пазначаны быў вялікім касым крыжам — знакам Сонца. Продкі ўсходніх славян не толькі ведалі пра чатыры сонечныя фазы, але і добра ўмелі вызначаць такую знешне непрыкметную з'яву, як пачатак павелічэння працягласці светлавога дня. Мяркуюць, што старажытны славянскі год складаўся з 12 месяцаў, па 30 дзён кожны, і заканчваўся 25 снежня. Зімовае сонцастаянне прыпадае на 23 снежня. Магчыма, пра тэрмін пераходу сонца на летні круг продкі даведваліся, лічачы дні месячных квадраў. Як бы там ні было, але ёсць падстава меркаваць пра высокі ўзровень астранамічных ведаў старажытных славян.

У ноч на 25 снежня запальваўся свяшчэнны рытуальны агонь „бадняк", які гарэў на працягу 12 дзён — усяго зімовага свята. Тады ж пяклі рытуальны хлеб — „багач". Абрады, якія выконваліся ў гэты час, мелі на мэце задобрыць багоў, у першую чаргу Сонца, каб яно паспрыяла добраму ўраджаю на будучае лета. У гонар Сонца палілі рытуальныя вогнішчы, адзіна годным дрэвам для якіх быў дуб, спальвалі колы, абмазаныя смалою і абкручаныя саломаю (кола было сімвалам Сонца). Балгары нават называлі гэты месяц коложег, палякі ды ўкраінцы — грудзень (нібы ад грудаў, замёрзлай гразі, зямлі), беларусы — снежань (калісьці ў нас былі снежныя зімы).

**Здзіслаў Сіцько**

## Вершы Віктара Шведа

### ВУЧУСЯ НА ПАМЫЛКАХ

— Так колюць задачы
Памылкамі ў вочы.
Зусім ты, як бачу,
Вучыцца не хочаш!

Раскаяўшысь быццам
Азваўся Данілка:
— Я заўжды вучуся...
На ўласных памылках.

### НА ЎРОКУ ХІМІІ

— Вадарод патрэбны штодзень,
Без яго нам нельга жыць.
Ў дзевятнаццатым стагоддзі
Здолелі яго адкрыць.

Тут дапытлівы заўсёды
Хіміка спытаў Андрэй:
— Людзі ж як без вадароду
На зямлі жылі раней?

### АБІБОК

— Расцеш ты абібокам
І гонару не маеш.
Дамашнія урокі
Бацька табе рашае.

Сказаў на гэта Коля:
— Я мушу тут прызнацца —
У хаце аніколі
Не мае часу маці.




*На аглядзе беларускай песні прыгожавыступілі вучні з Дубіч-Царкоўных.*
**Фота М. Ваўранюка**

### РАСПІСНЫ ПОСУД

Распісны посуд... Зрэшты, ён можа даць уяўленне пра ролю посуду ў інтэр'еры жылля XVII—XVIII стагоддзяў. Маецца на ўвазе гліняны посуд, што пасля прасушкі распісваўся ангобам (спецыяльнай тонка размолатай глінай, разбаўленай вадой да кансістэнцыі густой смятаны). Падбіралася гліна кантрастных колераў: белая для чырвонага чарапка і чырвоная для белага, як на Палессі. Праз спецыяльны ражок тонкім струменьчыкам лілася гліна на чарапок, і расцвіталі на борціках і донцах талерак кветкі з лістотай, а на горле, тулаве збаноў і кубкаў яны перамяжаліся спіралямі ды стужкамі. Потым паверхня начыння пакрывалася паліваю зялёнага, карычневага колераў ці бясколернаю. Пад бліскучым слоем палівы, на фоне чырвона-карычневага чарапка белы ангобны роспіс глядзеўся вельмі прыгожа. Такі посуд расстаўляўся ўздоўж сцен на падвясных палічках-градках. Талеркі ставіліся на рабро, каб быў бачны роспіс, збаны і кубкі стаялі побач. Разам з паліванымі ці паліхромнымі кафлямі печаў яны стваралі адзіны ансамбль, што адпавядаў уяўленню нашых продкаў аб прыгожым.

**Н. Здановіч**

### 26
### „СЭМ-СЭР" (2)

Мае растлумачэнні, мауляў, ніякіх зламысных замахаў на грамадскую ўласнасць няма, гучалі непераканаўча. Чалавек у плашчы слухаў і не слухаў. Добра, што нахапіўся знаёмы мастак і стаў на маю абарону.

— Ні на што іншае гэтыя аздабленні непрыдатны, — ён задзёр угару клінаватую бародку. — Выраблязь і выстаўляць такія, з вашага дазволу, творы мастацтва могуць хіба што грабежнікі з вялікай дарогі. Халтура! — зняважліва кінуў ён. — На гэткія рэчы чалавек, калі ён сябе хоць крыху паважае, і глядзець не захоча... Хіба толькі сабака нагу падыме.

Узгаралася даволі гарачая спрэчка, чалавек у плашчы быў не надта памяркоўны і дазволіў сабе празрысты, але выразны намёк, што, выказваючы такія погляды, недалёка дайсці і да фігур на плошчах.

— На плошчах і мая работа ёсць, — ускіпеў мастак, — так што! Чаго вы стаіце?.. Ідзіце, далажысце дзе належыць!

Чалавек у плашчы палічыў за лепшае пайсці. Я і вінаватая ва ўсёй гэтай уструшні сабачая душа моўчкі слухалі. Праўда, Дзік быў гатовы не даць мяне ў крыўду, як і заўсёды ў хвіліны гарачых гаворак.

— Ну, твой сабака — рашуча — маладзец! — Мастак пачаў аставаць пакрысе. — Ён не дрэсіраваны? Аддай яго ў школу, няхай памуштруюць. А не прымуць у сабачую, можна ў мастацкую, — у яго ёсць густ дый, мусіць, і розум. Глядзіш, выб'ецца, пачне пісаць рэцэнзіі на выстаўкі.

Задаволены сваёй дасціпнасцю, мастак запрасіў у майстэрню паглядзець новую работу.

## ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЗІК

— Заходзь, толькі без яго, — палец упёрся ў Дзіка. — І мяне ж ахоўвае адзін такі маладзец. Ды каб не ўзнікла канфрантацыі, а чаго добрага, і крыві...

Як ні дэманстравалі мы ўсё, што мог прарабляць Дзік, у навуку яго не ўзялі. Сабачая прафесура не прызнала чыстай пароду. А так сказалі: „Самавук здольны".

Гэтым былі задаволены ўсе: Дзік, праўда, не здагадваўся, якая яму рыхтавалася доля, а хатнія, у тым ліку і я, радаваліся, — з другам расставацца не трэба.

Сабака сапраўды быў здольны, хоць і адольваў навучанне саматугам. За нейкі тыдзень ён асвойтаўся з усімі адценнямі каманды „Сэм". Трэба было толькі выставіць палец на рэч, якую належала падаць, ці паказаць, куды трэба ўскочыць, і вымавіць запаветнае слоўка. Браў якія хочаш бар'еры, пераскокваў цераз падняты да твару кіёк, сядаў на крэслы і канапы, нават злаўчыўся ўмайстроўвацца на падаконні, не трушчачы шыбы.

Невялічкая затрымка выйшла аднаго разу. Каля чыгункі знайшоўся парканчык, высакаваты, чалавеку па бараду.

Высока, нічога не скажаш! І сабака рабіў усё новыя і новыя спробы апынуцца наверсе. Разганяўся, даставаў лапамі апошняе бервяно, вось-вось, здаецца, утрымаецца, але — не хапала сілы — абсоўваўся ўніз. Тады ён клаўся, спачываў хвілінку і зноў разганяўся, ляцеў, гаўкаючы, нібыта хацеў застрашыць непадатлівую перашкоду.

Падчас чарговага штурму паркана я хацеў дапамагчы, паспрабаваў падперці сабаку заднія лапы, — яму ніяк не ўдавалася зачапіцца кіпцямі за бярвенца. Дзік пакрыўдзіўся і адышоў. — „Сэм!" — знарок голасна выгукнуў я. — І табе не брыдка??

Адкуль тая сіла ўзялася! Сабака рынуўся кумільгом, скочыў, але зноў павіс з боку парканчыка, на гэты раз, аднак, прыняў дапамогу, упёрся на падстаўленую руку і праз момант асядлаў перашкоду. Зверху на мяне пазіралі сапраўды разумныя вочы.

Пэўна, меў рацыю той мастак, успамянуўшы пра сабачы густ і розум.

Да слова трэба сказаць: недарэчныя постаці падлеткаў і брыдотны посуд, з якіх Дзік пачынаў сваё трукацтва, праз некалькі гадоў знялі. Праўда, і лепшых не паставілі.

На запрашэнне мастака ў майстэрню давялося адгукнуцца. Пайшоў. На стук у дзверы абазваўся густы брэх: „Баў! Баў!

— Ну і бас жа ў тваійго цюцькі! — пахваліў я, распранаючыся.

— Ты ўгадаў, — мастак паціснуў мне руку, — па голасе яму імя і дадзена — Бас.

Тым часам сабака з усіх бакоў аглядаў і абнюхваў мяне, калі мы паселі, пашварыўся ў кутку і прынёс сухую, дацьна абсмоктаную костачку. Паклаў перада мною і стаяў, нібыта пытаючы: чаму ты не бярэшся за такі гасцінец? Калі ласка!

Мастак сплясну ў рукамі:

— Ведаеш, такога яшчэ не здаралася. Каб ад першай сустрэчы даць так веры. Нават не пашкадаваў самага ўлюбёнага. Значыць, вельмі ўпадабаў. І мне дае зразумець: з гэтым чалавекам можна не асцерагацца...

Мастак пачаў паказваць новыя работы, мы гаварылі пра навіны. І раптоўна высветлілі прычыну Басавай гасціннасці: упускаючы мяне ў майстэрню, ён унюхаў: прыйшлі з дому, дзе жыве сабака.

— Цікава, а што зрабіў бы твой Дзік, каб я зайшоў? — задумаўся мастак. — Зрэшты, мы можам зайсці з ім. Хочаш, Бас? Толькі дай слова не грызціся.

*(працяг у наступным нумары)*

**Максім Лужанін**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ПАДАРОЖЖА ПА МОВАЗНАВІІ

## 10

### Ромб М

Запоўніце клеткі ромба словамі, якія пачынаюцца літарай **м**.



### Сцяжок Д

Дапішыце ў сцяжок словы, якія пачынаюцца і канчаюцца літарай д.



### Скразныя літары

Запоўніце пустыя клеткі сетак літарамі так, каб можна было прачытаць назоўнікі ў пачатковай форме.



### Сняжынка С

Сняжынку трэба „замарозіць" з цэнтра словамі, якія пачынаюцца з літары **с**.



### Кветка 20-ль

Прыемнай узнагародай для пераможцаў будзе гэта кветка. Дык хто хутчэй яе „вырасціць"?



### Чацвёркі

Гульня заснавана на такім прынцыпе: першыя словы па гарызанталі і вертыкалі аднолькавыя. У пустыя клеткі ўпісваюцца літары так, каб атрымаліся любыя назоўнікі ў пачатковай форме, але абмежаваныя ўмоўленай колькасцю літар.










*(працяг у наступным нумары)*

З гісторыі Беларусі

# ДЗІСНА

Назва Дзісна пайшла хутчэй за ўсё ад агульнаславянскага *дзесная* — правая, ці *дзясніца* — правая рука. Праўда, тут гаворка вялася, мабыць, не толькі пра дзясніцу — руку, але пра значэнне гэтага слова, як правая палова або правы бераг. Народнае паданне, якое зафіксавана ў гэтых мясцінах, пацвярджае вышэйпрыведзены факт.

Даўным-даўно, за незапамятнымі часінамі, у гэтых мясцінах жылі пастаянна варагуючыя паміж сабою плямёны. Біліся яны па любой, самай дробязнай нагодзе. Нават тыдня не праходзіла, каб кагосьці не забілі ці не захапілі ў палон, або не спалілі адзін у аднаго паселішчы. Зусім страцілі спакой. Разумелі ўжо і самі, што далей так жыць немагчыма, а як спыніць кровапраліцце — не ведалі. Тады нехта з мудрых воінаў прапанаваў:

— А калі звярнуцца за парадай да старога вешчуна, які жыве ля святога дуба?

Вяшчун уважліва выслухаў просьбу людзей, потым пачаў рыхтавацца да ўрачыстага абраду. Зарэзаў пеўня і кроў з яго выпусціў у зыркае полымя, спрабуючы па тым, як загусала яна, прадказаць, якім чынам можна пазбегчы кровапраліцця. Стары нешта нячутна шаптаў ужо гледзячы паверх вогнішча, паверх галоў шматлікіх прысутных. Раптам вяшчун, нібы страпянуўшыся, пачаў гаварыць, звяртаючыся да людзей:

— Нашы багі прынялі ахвяру. Яны пачулі просьбу вашу і вось што яны мне параілі. Бачыце гэтыя вось дзве рукі — левую і правую? Абедзве яны ад аднаго цела, але не перашкаджаюць і не замінаюць адна адной. Так і вашыя плямёны павінны жыць: па левы бок ракі Дзісны ставяць свае паселішчы назаўсёды тыя, хто там і жыў, а па правы — наадварот, тыя, хто там даўно займаў месцы. І з гэтага дня не павінна быць паміж вамі боек і войнаў, бо вы ад аднаго цела. — Сказаў так вяшчун, і разышліся людзі ад яго, дзякуючы за такую простую і разам з тым мудрую параду.

Але потым з левага берага жыхары перасяляліся ўсё далей і далей ад ракі, а вось на правым, там дзе сёння Дзісна стаіць, засталіся.

**Аляксей Ненадавец**

### БЕЛАЯ ЗЯМЛЯ

Неба і Зямля — аднолькавага колеру. І толькі паміж імі то там, то тут пракідаюцца іншыя колеры — зялёны, шэры, чырвоны. Зялёны — ад сасонак, што кучаравяцца па той бок азярынкі, на ўзвышшы. Чырвоны — ад ракітавых кустоў, што пасталі трошкі лявей на берагавым схіле. Шэры — ад камлёў старых альшын, што віднеюцца на самым ускрайку балаціны.

Вось і некалькі бярэзінак, тонкіх і гонкіх. Яны на фоне сасонак — як белыя ніткі, спушчаныя з белага неба на белую зямлю.

Радуе вока махавінне, што абвіло азярынку зялёнай стужкай. Сям-там укроплены ў тую стужку чырвоныя вочкі журавін. Відаць, сюды любяць прылятаць лясныя пеўні — глушцы — патаптацца на беражку, папіць вады, пачаставацца ягадамі. Але сняжок прыцерусіў птушыныя крыжыкі. Толькі там, бліжэй да лазнякоў, відзён доўгі ланцуг слядоў. Гэта стары сякач напярэдадні правёў сваю сям'ю ў суседнюю дуброву.

Азярынка хутка зашкліцца лёдам.

А вакол будзе ляжаць белая зямля.

Чыстая зямля.

Спакойная зямля.

**Яраслаў Пархута**

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

— Чаму ты сёння такі сумны? — запытаў другакласніка Лукаша бацька.

— Я ўчора паўтараў граматыку польскай мовы перад кантрольнай...

— Пэўна, усё забыў? — не даў яму кончыць бацька.

— Не, таго, што добра вывучыў, не далі. Былі пытанні па тых тэмах, якіх я не вывучыў добра.

— І не ведаў, што пісаць?

— Не, крыху ведаў, толькі мяне злосць бярэ, што надарма ўчора столькі часу страціў!

***

— Скажы, Мірон, колькі будзе, калі да аднаго дадаць адзін?

— Адзін.

— Чаму ты так лічыш? У кошыку ляжыць адзін яблык. Пакладзі туды яшчэ адзін. Колькі іх будзе ў кошыку?

— Адзін. Другі будзе маёй сястры.

***

У трэцім класе на ўроку прыродазнаўства пачалі гаварыць настаўніку, што кожны чагосьці забыўся на ўрок.

Настаўніца ўважліва выслухала ўсіх, а потым запыталася:

— А хто з вас забыўся сёння з'есці сняданак?

**Ірэна Салавей**

# Апрацоўка каменю на Беларусі

Апрацоўка каменю на тэрыторыі Беларусі ў першую чаргу была звязана з будаўнічай справай. Асабліва распаўсюджанне ў беларускім дойлідстве атрымала ў XII стагоддзі. Гродзенскія дойліды падбіралі камяні розных парод і колераў, прычым адзін з бакоў старанна шліфаваўся. Самыя вялікія камяні ўмуроўваліся ў ніжнія часткі сцен і абапал уваходаў у храмы. Вышэй у цагляную муроўку ўводзіліся камяні меншых памераў. Акрамя валуноў у гэты час выкарыстоўваліся і абчасаныя каменныя блокі вапняку або вапняковага туфу.

У XII—XIII стагоддзях на тэрыторыі Беларусі займаліся апрацоўкай пірафілітавага сланца (шыферу), які здабывалі ў ваколіцах Оўруча. З яго выраблялі праселкі, крыжыкі і каменныя саркафагі. У Мазыры знойдзена вялікія сланцавыя дыскі-нарыхтоўкі з круглымі адтулінамі ў сярэдзіне дыска. З розных парод каменю выраблялііся жорны, а з пясчаніка і сланца — тачыльныя брускі. З мяккіх парод каменю рабілі нацельныя абразкі, састаўныя ліцейныя формы, каменныя пячаткі і цяжары для рыбалоўных сетак.

З XIV да XVII стагоддзя з каменю вырабляліся каменныя ядры для камнямётаў і гармат. У гэты час з камню ствараюць надмагільныя пліты і крыжы. У другой палове XVI — першай палове XVII стагоддзя ў будаўніцтве зноў сталі выкарыстоўваць апрацаваны камень (у асноўным вапняк). З яго рабілі прафіляваныя парталы дзвярэй і вокан, кансолі і балясіны балконаў, аконныя рамы.

**Алег Трусаў**



*Шэрань.* Фота В. Касакоўскага

**Адгаданка „Падарожжа..."**

**Сняжынка С.** *Свіслач, спякота, сэкстэт, селянін, сааўтар, сілікат.* Можна павялічыць колькасць „крышталяў" сняжынкі: *спіраль, сінонім, спеўнік, смокінг, смятана, снежань, спакуса* і г.д.

**Кветка 20-ль.** *Мальва, бульба, долька, сальта, пальцы, галька, вольха, гільза, бэлька, дэльта, кілька, калька, рэльеф, полька, жальба, пальма, Вольга, Зэльва, Мальта, лялька* і інш.

**Чацвёркі.** *Ружа, узор, жаба, арол. Ліст, імжа, стол, твар. Марш, апёк, рысь, шыба. Указ, кліч, асцё, звон. Кадр, арфа, дроб, рост. Якім, Нюра, кроў, алюр.*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# Нацыянальнасці ў вачах навукоўцаў

У днях 15—16 лістапада 1994 г. у Любліне адбылася міжнародная канферэнцыя, якую арганізаваў Інстытут Сярэдне-Усходняй Еўропы. Дырэктар Інстытута, Ежы Клачоўскі — вядомы польскі вучоны, ужо некалькі гадоў пастаянна ствараe ўмовы для абмену інфармацыі і вынікаў навуковых даследаванняў спецыялістам, якія займаюцца нацыянальнымі і рэлігійнымі праблемамі грамадстваў, пражываючых на тэрыторыі сярэдняй і ўсходняй Еўропы. У гэтым годзе канферэнцыя была азагалоўлена: „Самаідэнтыфікацыя нацыянальная і рэлігійная ды справа нацыянальных і рэлігійных меншасцяў у Сярэдне-Усходняй Еўропе". У Люблін з'ехаліся 88 дакладчыкаў з Польшчы, Беларусі, Украіны, Літвы, Славакіі, Венгрыі, Швецыі, Балгарыі, Чэхіі, Румыніі, Нямеччыны, Францыі і Галандыі. З Менска, Гародні і Бярэсця прыехала 12 дакладчыкаў. Як я зарыентаваўся, з беларускай навукай, дзякуючы яе энтузіястам і паклоннікам, справы не так ужо дрэнныя. Свет навукі перастаў звяртаць увагу на дзяржаўныя ўлады. Сярод інтэлектуалаў існуе перакананне, што кіруючыя кадры не ў змозе зразумець значэнне навукі ў жыцці сучасных грамадстваў. Таму некаторыя за свой кошт едуць на такія канферэнцыі, як у Любліне, каб не заставацца ззаду за замежнымі навуковымі цэнтрамі. Эфекты відаць з кожным годам. Маладыя навукоўцы на беларускай, англійскай, польскай і расейскай мовах могуць свабодна і без комплексаў дыскутаваць з калегамі па прафесіі з усіх куткоў Еўропы.

Нарады ў Любліне вяліся ў шасці групах: статыстычнай, гістарычнай, палітапагічнай, юрыдычнай, філасофічна-тэалагічнай і псіхалагічна-сацыялагічнай. Амаль у кожнай групе былі навуковыя аўтарытэты, а тэмы пасобных выступленняў проста заахвочвалі быць прысутным у шасці залах адначасова. Але пакуль гэта немагчыма, вырашыў я паслухаць пра юрыдычныя абумоўленасці жыцця нацыянальных меншасцяў у Польшчы ды іншых краінах Еўропы.

Юліта Рыбчыньска з Любліна выказала думку, што ўсе дзяржавы, якія ўзніклі на пачатку 90-х гадоў, ствараюць свае дзяржаўныя структуры, спасылаючыся на нацыяналізмы. У той жа час, у выніку дэмакратызацыі палітычнага жыцця, пра сваю прысутнасць заявілі таксама нацыянальныя меншасці, спасылаючыся прытым на міжнародныя гарантыі іх правоў. Канфлікт у меншых ці большых памерах у такой сітуацыі быў непазбежны. Пабудова юрыдычнага ладу ў адносінах да нацыянальных меншасцяў у краінах усходняй і сярэдняй Еўропы пачалася як бы з нуля, да таго ж атмасфера ў прадстаўленых большасцю грамадствах не спрыяла станоўчаму вырашэнню гэтай праблемы.

Цяпер вельмі папулярнай формай аховы правоў нацыянальных меншасцяў, — гаварыла пані Рыбчыньска, — з'яўляюцца двухбаковыя дамовы паміж суседнімі краінамі, якіх пасля доўнасці найчасцей выходзяць на ўзровень парытэтаў. Хаця парытэт у трактоўцы меншасцяў не запісаны ў дамовах, на практыцы аднак палітыкі і ўраднікі імкнуцца абмяжоўваць дзяржаўную палітыку ў адносінах да нацыянальных меншасцяў да такое, якую прымяняе суседняя краіна ў адносінах да іх суайчыннікаў. Ствараецца пры гэтым небяспечны абсурдны прэцэдэнт, што дзяржава трактуе сваіх грамадзян у залежнасці ад таго, як урад суседняй краіны адносіцца да сваіх грамадзян.

Мыхаіл Буронэскі з Харкава, які ў Люблін ехаў два дні і дзве ночы, даклад пра ўкраінскае заканадаўства ў адносінах да нацыянальных меншасцяў зрабіў на англійскай мове, для большасці польскай публікі зусім незразумелай. Паводле прафесара Буронэскага, Украіна да гэтай пары не стварыла ніякага арыгінальнага заканадаўства ў гэтай галіне, толькі прыняла ў карыстанне дзеючыя міжнародныя юрыдычныя пастановы.

Гжэгож Януш з Любліна прадставіў сітуацыю паасобных меншасцяў у Польшчы. Найбольш, паводле Г. Януша, актаў агрэсіі выступае ў адносінах да ромаў (цыганоў) і яўрэяў. З тым, што ў выпадку гэтай апошняй нацыі, агрэсія мае найчасцей слоўны характар. Найбольш аднак у апошніх гадах пагоршылася сітуацыя беларусаў. Дарэчы, усе, што гаварылі пра меншасці ў Польшчы, звярталі на гэта ўвагу. І ніхто ў сапраўднасці не адказаў на пытанне, чаму наступае маланкавая паланізацыя беларускага насельніцтва ў Польшчы. Беларусы — гэта адзіная нацыянальнасць, якая не галасуе на сваіх кандыдатаў у паслы ды сенатары, не карыстаецца заканадаўствам, якое дае ім усялякія магчымасці развіцця школьніцтва на роднай мове, не мае сваіх прадстаўнікоў у адміністрацыі ці заканадаўчых органах, не цікавіцца нават сваёй нацыянальнай будучыняй, — прагучала ў дыскусіі.

У вачах навукоўцаў, якія даследуюць сітуацыю нацыянальных меншасцяў у Польшчы, беларусы зусім неарганізаваныя, каб змагацца за свае інтарэсы. Ніводная нацыянальная група не знішчае так, як беларусы, сваіх дзеячаў, якія прапануюць змены, хочуць затрымаць асіміляцыйныя працэсы.

З гэтай дыскусіі я зразумеў, што польская інтэлектуальная эліта зусім не зацікаўлена тым, каб з краявіду Беласточчыны зніклі беларусы, а наадварот, каб сталі яны свядомай нацыянальнай групай, каб не праяўлялі ў сваім захаванні незразумелых дзівацтваў.

Марэк Галушка з Варшавы ў сваім выступленні заявіў, што ў прынцыпе пастулаты нацыянальных меншасцяў не разглядаюцца дзяржаўнымі ўраднікамі, калі не маюць яны падтрымкі з боку нейкага ўплывовага лобі ці палітычнага фактара. У найлепшай сітуацыі знаходзяцца тут немцы, з увагі на падтрымку дзяржавы, у найгоршай ромы, якія не маюць нават сваёй інтэлігенцыі.

Прафесар Анджэй Жэплінскі, эксперт сеймавай Камісіі па справах заканадаўства аб нацыянальных меншасцях, паінфармаваў, што дакумент, над якім будзе дыскутаваць Сейм, стварэецца амаль без удзелу паслоў. Толькі нямецкі пасол Кроль заўсёды прысутнічае на пасяджэннях камісіі. Прафесар Жэплінскі сказаў таксама, што чуў штосьці і пра існаванне беларускага пасла, але ніколі яго не бачыў. Вельмі актыўны ўдзел у працах камісіі прымаюць затое ўраднікі з Міністэрства ўнутраных спраў.

Неяк пры нагодзе голас узяў выдатны дзеяч Саюза палякаў у Беларусі Эўгеніюш Скрабоцкі. Паінфармаваў ён прысутных, што польская група налічвае там каля 2,4 мільёна чалавек. Яшчэ раз паўтарыў супярэчлівую тэзу: „католік — гэта паляк". Але з ліку польскіх інтэлектуалаў ніхто з гэтым не пагадзіўся. Дарэчы, наступны рэферат Аляксандра Білыка, які прадстаўляў дэпартамент па справах нацыянальных меншасцяў у структурах Управы Савета Міністраў Беларусі, паказваў колькасць нацыянальных меншасцяў у гэтай краіне. Расейцаў у 1989 годзе было 1.342 тысячы (13,2 %), палякаў — 417,7 тыс. (4,1%), украінцаў — 291 тыс. (2,9%), яўрэяў — 112 тыс. (1,1%), беларусаў — 7904,6 тыс. (77,9%). Спадар Білык — сам гэтае сказаў — па нацыянальнасці ўкраінец. У Беларусі праблемы нацыянальных меншасцяў не адчуваецца, бо нават мова ўраднікаў, інтэлігентаў і большасці грамадства з'яўляецца мовай нацыянальнай меншасці.

Гэта толькі невялікі фрагмент праблемаў, якія закраналіся на люблінскай канферэнцыі. Праўдападобна такі свабодны і абгрунтаваны абмен думкамі і аргументамі мае большае значэнне для наладжвання добрасуседскіх адносін паміж народамі, чым дзесяткі пратаколаў, падпісаных ураднікамі на міждзяржаўным узроўні, якіх потым ніхто не чытае і не ажыццяўляе.

**Яўген Міранові́ч**

# ІКОНЫ

**Частка XII**

У 1970 годзе правёў я дзве доўгія размовы аб іконах са сваімі бацькамі — Андрэем і Пелагеяй Баршчэўскімі. Мой бацька быў вальнадумцам, а маці — глыбокаверуючай жанчынай. Аднак на працягу ўсяго жыцця не памятаю найменшага паміж імі канфлікту, звязанага з рознымі падыходамі да рэлігіі. І таму да сёння з глыбокай удзячнасцю ўспамінаю сваіх бацькоў, якія сваімі паставамі далі мне прыклад прыгожай талерантнасці, якой не хапае часта высокаадукаваным людзям у нашым грамадстве. Думаю, што не ўдалося мне пераняць многіх добрых рыс з паставы і характару маіх бацькоў, аднак рэлігійную талерантнасць пераняў я поўнасцю і стараюся прымяняць яе на працягу ўсяго жыцця.

Падыход да ікон з боку маіх бацькоў быў вельмі розны, а нават супрацьлеглы. Мне асабіста сёння, амаль дваццаць гадоў пасля смерці маіх бацькоў, іх паставы аднолькава блізкія, зразумелыя і дарагія і таму прагну прадставіць іх з аднолькавай дэталёвасцю і аўтэнтызмам.

Сёння прадстаўлю выказванне майго бацькі, Андрэя Баршчэўскага (1887—1975):

„Пра іконы пытаеш? Спытай лепш Мацяру, яна веруюча то напэўно будзе цікавей. Ну, але калі хочаш то і я магу сказаць тое, што думаю. Калі я хадзіў у школу, а гэта было яшчэ пры цары, то поп раздаў нам іконкі. Быў на іх нарысаваны сівы старычок. Разгортваў ён рукамі хмары і глядзеў на зямлю. Унізе было напісана: „Бог видит всё и всех. Видит также тебя. Поступай благочестиво". Ты ведаеш, як я толькі падрос, то ужэ перастаў верыць, што Бог гэто сівенькі старычок. І сегодня не веру. Бог не може быць падобны да чалавека. Гэто глупство. Бог гэто чалавеча дабрата, а не старычок.

Ну, а што касаецца ікон то табе скажу, што калі я быў дзіцём то у нас у хаці былі іконы каталіцкі і праваслаўны. Бо бачыш, мой дзед быў католікам, хрышчэны і жэнены ў касцелі. А мой бацька то быў хрышчэны ў касцелі, а жэніўся ужэ ў царкві. Чом так сталасё, то я толком не ведаю. А маці мая то была з праваслаўного роду і яна прынесла ў хату свае праваслаўны іконы. Так што ў нас на пачатку былі і каталіцкі і праваслаўны, а после то асталіся толькі праваслаўны. Бацька мне ніколі пра каталіцызм не расказваў, хоць малітвы шаптаў па-польску, але нас гэтых малітваў не вучыў, а маці вучыла па-руску.

У 1914 року мяне прызвалі ў царску армію і зачыслілі ў дальнебойную арцілерыю. Вайну я распачынаў пад польскім горадам Модлінам. Ну, а было гэто так. Перад боем прыехаў да нас у батарэю вельмі высокі праваслаўны духоўны з цэлаю світаю. З'ехалася много ахвіцэраў, не толькі нашых, але і чужых. У нас у батарэі было штэры арудзіі. Былі такіе цяжкі, што ў час вясенніх растопаў то ўпрагалі у адну шаснаццаць пар быкоў і шчэ ўсе салдаты пхалі у калёса.

Ну, то значыцца быў велікі малебен пры ахвіцэрскай, значыцца сердэчняй арудзіі. А так яно сталасё, што цэлу ноч перад гэтым набажэнствам ішоў дождж. А наша арудзія стаяла ў далінцы і такая гразь там паўстала, што гэты духоўны абышоў і пасвенцаў усе арудзіі, а нашае не пасвенцаў, бо не мог да яе праз гразь дайсці.

Калі ужэ набажэнство канчалосё, то гэты духоўны на ахвіцэрскай арудзіі павесіў іконку. Ну і што ты думаеш? У першым баю немцы уплітавалі цяжкім снарадом у нашу ахвіцэрскую арудзію так, што і калёсе адарвало і затвор вырвало і іконку панесло не ведамо куды. Мало гэтаго, перабіло усіх салдат з абслугі. От табе і маеш і малебен, і іконкі.

Мы цэлы час памалу адступалі ў бок Брэста, а после ў бок Мінска. І ведаеш што? За пару месяцоў то мы патрацілі усе нашы арудзіі, кроме тае, катору я абслугоўваў, гэто значыт кроме тае невысвенчаное. Тую не высвенчану, то мы завалаклі аж за Міснк. А што далей было, то я ужэ не знаю, бо после бальшавіцкое рэвалюцыі то мяне знялі з фронту і паслалі аж у Маскву на ахрану жалезнае дарогі. Ты знаеш, што там было горш, чым на фронці. Там я спаткаўся з братам Александром, каторы так як і я быў узяты ў армію. От мы разом з ім і служылі ў ахране жалезнае дарогі. Яго ўкусіла ў шыю ціфозна вош і ён памёр. Шкада, добры быў чалавек.

Ну, але я ужэ гавару не аб тым аб чым ты пытаў. Я табе скажу так, што ужэ на фронце я быў не веруючы. Але калі насталі бальшавікі і пачалі на каждым шагу гаварыці, што німа Бога то мне было гэто праціўно слухаці. Бо нашто такое гаварыці? Я табе скажу так: чы ты верыш, чы не верыш гэто тває дзело. Калі верыш, то не прымушай неверуючага, каб ён верыў, а калі не верыш, то не прымушай веруючага, каб ён не верыў. Калі чалавек у рэлігійных справах дурны, то ён і ў паліціцы будзе дурны. Я ўсё жыце ўцякаў ад такіх дуракоў і ты ўцякай.

От хоць бы вазьмі нашаго Янаўчка (Іван Бура). Ён цэлэ жыце з папамі ваюе. А нашто такое рабіці. Той робіт сваё дзело і ніхай сабе робіт. Ён многім людзям патрэбны і не трэба на яго нападаці".

**Алесь Барскі**

# Сустрэчы з паэтэсай

У Беларускім ліцэі ў Бельску-Падляшскім склалася такая традыцыя, што адбываюцца аўтарскія сустрэчы. У нас былі ўжо: Віктар Швед, Мікалай Гайдук, Юрка Баена, Ян Чыквін, Лёнік Тарасэвіч і Сакрат Яновіч. У апошні час былі праведзены аўтарскія сустрэчы з Надзеяй Артымовіч. 27 кастрычніка адбыліся сустрэчы з вучнямі першых класаў (Іа, Іб). На сустрэчах паэтэса расказвала нам аб сваім жыцці, навуцы, настаўніках і працы. Яна гаварыла пра пачаткі сваёй творчасці, інспірацыі і зацікаўленні, чытала свае вершы, расказвала пра паэтычны працэс, адказвала на нашы пытанні.

10 лістапада 1994 года адбыліся сустрэчы Надзеі Артымовіч са старэйшымі класамі (IIIа, IVб). IVб клас з паэтэсай сустракаўся ўжо не першы раз. На сустрэчы вучні абмяркоўвалі апошні зборнік „Дзверы". Гэтая сустрэча была вельмі, вельмі цікавай. Вучні задавалі змястоўныя пытанні. Адказы Надзеі Артымовіч былі таксама вельмі цікавыя і павучальныя.

Аўтарскія сустрэчы вучням карысныя. Пасля іх вучні напэўна з большай ахвотай будуць чытаць творы нашых паэтаў. Сярод нас ёсць вучні, якія ўжо пачынаюць пісаць вершы. Пасля такіх сустрэч яны напэўна будуць мець большую ахвоту пісаць. Вучні мелі таксама магчымасць купіць зборнікі Надзеі Артымовіч.

Да наступных сустрэч!

**Вучні класа Іб:**
**Марк Рубашэўскі**
**Анна Парфянюк**
**Іаанна Такарэўская**
**Магдаліна Гогльчанка**

**Ад рэдакцыі:**

Маладых паэтаў просім дасылаць свае творы ў „Ніву". Ахвотна надрукуем.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# НАШЫ КАРАНІ

## LXXIII. Пад нагамі „наступніка Хрыста"

Кароль і абодва вялікія канцлеры: каронны Ян Замойскі і вялікалітоўскі Леў Сапега (між іншым, свежанавернуты езуітамі католік) яшчэ раз падрабязна разгледзелі варункі уніі, выкідаючы з іх усё, што чым-колечы не дагаджала каталіцкаму Касцёлу і польскаму ўраду і загадалі Пацею і Тэрлецкаму рыхтавацца да падарожжа ў Рым.

Кароль пажадаў, каб картэж быў пышны і сваім багаццем адпавядаў годнасці каталіцкага Каралеўства Польскага, але на тое не даў і зламанага граша. Пацей быў чалавекам заможным, а Тэрлецкаму кароль параіў здаць у арэнду на 20 гадоў усе цэрквы і іхнюю маёмасць, што знаходзіліся ў Луцкай епархіі, ды за атрыманыя грошы наладзіць свой шыкоўны выезд, не забываючы пра набыццё дастойных гасцінцаў папе і яго двару. Такім чынам праваслаўныя ўкраінскія вернікі аплацілі шыкоўны картэж здрады іхняй бацькоўскай веры. Гэта з часоў Тэрлецкага і Пацея павялося ў Рэчы Паспалітай здаваць у арэнду нароўні з корчмамі праваслаўныя святыні розным прыблудам, якія потым здзiралі з праваслаўных парафіян непасільную плату за ўваход у сваю ж царкву на малітву, святую Літургію, вянец ці адпяванне нябожчыка. Рэштка гэтай *залатой рэлігійнай талерантнасці ў Рэчы Паспалітай і любові да адлучаных братоў-схізматыкаў* і да сення захаваліся на Беласточчыне ў народнай бурлесцы *„Залман"*.

На два дні перад выездам у Рым незвычайна шыкоўнага картэжа на чале з Пацеем і Тэрлецкім кароль спецыяльным універсалам ад 14 верасня 1595 г. апавясціў падданым, што праваслаўныя ў Рэчы Паспалітай далучыліся да каталіцкага Касцёла.

Аж два месяцы цягнуўся мнагалюдны картэж з Кракава ў Рым. У тым часе кароль адмысловым пасланцом папярэдзіў папу аб выездзе Пацея і Тэрлецкага і даказваў, што перавод праваслаўных Рэчы Паспалітай пад уладу Рымскага Прастола лёгка давядзе да уніі Вялікае княства Маскоўскае, дзе мільёны чалавечых душ *гібеюць у грэцкай схізме*, а Рэч Паспалітую вызваліць ад шпіёнаў, таму што *схізматыкі* шпіёнаць у карысць Турцыі. Што ж, беластоцкі каталіцкі біскуп Эдвард Азароўскі пасля 400 гадоў нічога новага не ўнёс у каноны ўсходняй палітыкі Касцёла, калі ў тыднёвіку *Gość Niedzielny* (н-р 35 ад 1993 г.), абвінаваціў праваслаўных Беласточчыны, што *яны знаходзяцца на паслугах Масквы*, інакш праваслаўных абазваў шпіёнамі.

У Рыме Пацея і Тэрлецкага з іх шматлікай світай прынялі надзвычай сардэчна. Памясцілі ў цудоўным палацы, побач з апартаментамі самога папы рымскага. Да часу генеральнай аўдыенцыі гасцей вазілі і вадзілі па славутасцях горада, ушаноўвалі гасцінамі. У тым самым часе шматлікая грамада папскіх экспертаў скрупулёзна даследавала прывезеныя Пацеем і Тэрлецкім дакументы і рыхтавала адказы на іх. І вось настаў дзень 23 снежня 1595 г., калі папа быў гатовы да адзначэння ўрачыстага пакарэння *схізматыкаў*.

Цырымонія адбывалася ў вялікай аўдыенц-зале. Папа Клімецій VIII ва ўрачыстых золататканых ды ўсыпаных дарагім каменнем шатах заняў месца на троне ў акружэнні 33 кардыналаў, а за імі, за аздобнымі кратамі, клубіўся натоўп арцыбіскупаў, біскупаў, абатаў, паслоў ад розных краін, славутых чужаземцаў, сярод іх нямала знатных каталікоў з Польшчы і Вялікага княства Літоўскага, курсантаў рымскай уніяцкай калегіі і іншых. Двух цырымоніймайстраў увялі Пацея і Тэрлецкага, тыя наблізіліся да трона, упалі на калені, аддалі папе рымскаму тры зямныя паклоны і адзін за другім пацалавалі туфель папы. Затым, увесь час стоячы на каленях, яны расказвалі, дзеля чаго прыбылі і падалі Кліменцію VIII прывезеныя дакументы. Пасля гэтага іх адвялі назад да ўваходных дзвярэй, дзе ўвесь час стаяла на каленях іхняя світа.

Папа загадаў прачытаць услых усе пададзеныя яму Пацеем і Тэрлецкім дакументы. Віленскі канонік Яўстафій Валовіч прачытаў акты на дзяржаўнай старабеларускай мове, затым сакратар папы прачытаў іх лацінскія пераклады. Потым ён жа звярнуўся да прыбыўшых з прамовай у якой падкрэсліў: *Мудра і богабаязна ўчынілі ваш глыбокашанаваны мітрапаліт і вы з біскупамі, што пажадалі з'яднацца з каталіцкім Касцёлам, па-за якім няма збаўлення. І з такіх далёкіх краін вы прыбылі сюды, каб даказаць падлегласць законнаму наступніку святога Пятра, праўдзіваму намесніку Хрыста на зямлі і, адкінуўшы старыя памылкі ў веры, прыняць ад яго веру чыстую, нескажоную.*

У адказ папскаму сакратару Пацей і Тэрлецкі, усё яшчэ стоячы на каленях, ад імя ўсяго епіскапства і народа склалі прысягу ва уніі. У іх даўжэзнай, падрабязнай прысязе знайшлося і такое вось сцвярджэнне: *Вызнаю і прымаю ўсё, што святы апостальскі Касцёл рымскі наказвае вызнаваць і прымаць паводле пастановаў сусветнага Трыдэнцкага сабора* і далей: *прызнаю святы каталіцкі і апостальскі Касцёл рымскі маці і настаўніцай усіх касцёлаў. Папе ж рымскаму, наступніку святога Пятра, князя апосталаў, і намесніку Ісуса Хрыста абяцаю і прысягай пацвярджаю шчырае паслушэнства.* Затым: *А гэтай праўдзівай каталіцкай веры, без якое ніхто не можа быць збаўлены і якую тут дабравольна вызнаю... буду навучаць ёй і маю паству або тых, хто будзе даручаны маёй пастырскай апецы.*

Усё гэта красамоўна сведчыць пра тое, што Пацей і Тэрлецкі са світаю фактычна поўнасцю прынялі каталіцызм, а слова *унія* была ўсяго толькі фігавым лістком гэтага факта. Пасля складзенай прысягі абодва біскупы — цяпер ужо каталіцкія — зноў упалі на калені, аддалі зямны паклон папу і пацалавалі яго **боты**. Кліменцій VIII сказаў ім некалькі цёплых слоў, абняў, пацалаваў і апавясціў, што прымае іх і адсутных мітрапаліта, біскупаў, усё духавенства і народ пад сваю ўладу. Па яго загаду кардынал і інквізітар знялі з Пацея і Тэрлецкага ўсе анафемы і грахі. Папа паблагаславіў іх на далейшую дзейнасць, але цяпер ужо дзеля дабра каталіцкага Касцёла. Па іх просьбе Кліменцій VIII дазволіў усёй іхняй свіце, стоячы на каленях, пацалаваць яго **пантофель**. На гэтым уся ўрачыстасць закончылася.

Толькі праз месяц, 21 студзеня 1596 г., папа Кліменцій VIII падпісаў канстытуцыю аб уніі. На пачатку лютага Пацей і Тэрлецкі са світаю выехалі з Рыма. На жаль, **везлі яны ў айчыну не хрысціянскую еднасць і згоду, не благаслвёны Богам грамадзянскі мір, але агрэсіўнае трэцяе веравызнанне, якога заданнем было знішчэнне праваслаўя.**

**Мікола Гайдук**

# АЛЯКСАНДР ХАРКЕВІЧ



Аляксандр Харкевіч нарадзіўся 28 лютага 1923 года ў вёсцы Лешукі, што ў Нараўчанскай гміне. Прафесіянальную працу пачаў у 1945 годзе ў Пачатковай школе ў Старым Ляўкове. Затым вярнуўся ў сваю родную вёску, дзе таксама арганізавалі школу. Пару гадоў заняткі адбываліся ў прыватным будынку. У 1948 годзе закончылі пабудову школы ў Лешуках. З гэтай мэтай перавезлі ў вёску адзін з дамоў з Нараўкі.

У 1947 годзе Аляксандр Харкевіч вёў курсы для непісьменных. У наступным годзе арганізаваў у сваёй вёсцы мастацкі харавы калектыў і спартыўны гуртох ЛЗС. Пад яго кіраўніцтвам тамашняя моладзь ставіла п'есы і ладзіла культурна-асветныя вечарыны ў суседніх вёсках. Прывіваў любоў да роднай мовы і культуры.

На працягу 1954 і 1955 гадоў працаваў у Інспектараце асветы ў Гайнаўцы. Затым вярнуўся ў школу ў Лешуках і працаваў яе загадчыкам. Пачаў будаваць прасторную мураваную школу, якую здалі ў карыстанне ў 1961 годзе. А. Харкевіч завочна закончыў Педліцэй у Беластоку ў 1950 годзе і Настаўніцкі інстытут (Studium Nauczycielskie) у 1959 годзе.

А. Харкевіч — гэта вядомы грамадскі дзеяч. Выконваў шматлікія грамадскія функцыі — сама менш сем. Быў членам Паветовага праўлення Саюза польскіх настаўнікаў у Гайнаўцы, членам камісіі па справах праграмаў навучання беларускай мовы пры Міністэрстве асветы, членам Нагляднай рады Гміннай спулдзельні ў Нараўцы, членам Салэцкай рады ў Лешуках, радным Паветовай рады народовай у Гайнаўцы і Гміннай рады народовай у Нараўцы, грамадскім куратарам пры Раённым судзе ў Бельску-Падляшскім.

Лешуцкі педагог многа працаваў са старэйшай моладдзю са сваёй і суседніх вёсак — на культурнай і спартыўнай ніве. Яшчэ нядаўна спяваў у стараляўкоўскім хоры „Цаглінкі" і ў прыхадскім хоры ў ляўкоўскім царкве.

А. Харкевіч быў членам Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Гэтую грамадскую функцыю выконваў з вялікай адказнасцю, з поўным разуменнем ролі і заданняў беларускай грамадска-культурнай арганізацыі. Быў актыўным дзеячам БГКТ да апошніх хвілін свайго жыцця.

У асобе А. Харкевіча моладзь заўсёды мела шчырага і сардэчнага прыяцеля і настаўніка. Быў ён выдатным арганізатарам працы школы і чулым выхавацелем. За дасягненні ў выхаваўчай працы і грамадскай дзейнасці быў узнагароджаны Кавалерскім крыжам Ордэна адраджэння Польшчы, значкамі „Заслужаны дзеяч культуры" і „Заслужаны для Беласточчыны" ды пяццю іншымі ўзнагародамі м. інш. значком „Сябра дзяцей" (Przyjaciel Dziecka).

20 кастрычніка 1994 года Аляксандр Харкевіч адышоў ад нас назаўсёды. У нашай удзячнай памяці застанецца Ён як узор сардэчнасці і добразычлівасці.

**яц**

# Увядзенне ў Храм Прасвятой Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі

*Велічанне:*

*Велічаем Цябе, Прасвятая Дзева, Богам выбранае Дзяўчо і шануем у храм Гасподні ўваходжанне Тваё.*

4 снежня (21.11 па старому стылю) адзначаем адно з самых вялікіх дванадзесятых царкоўных свят — Увядзенне Прасвятой Багародзіцы. Згодна Святой Традыцыі Іаакім і Анна, выконваючы сваё абяцанне, аддалі трохгадовую Марыю на службу Богу. Прасвятая Дзева Марыя, якую бацькі прывялі ў Іерусалімскі храм, без нічыёй дапамогі пераадолела 15 высокіх лесвічных ступеняў, што вялі ў свяцілішча (святое месца), дзе права на ўваход мелі толькі свяшчэннікі і першасвяшчэннікі. Сабраныя спявалі па адным псалме на кожнай ступені — разам 15 (ад 119 па 133). На апошняй ступені сустрэў Яе першасвяшчэннік Захарыя (бацька Св. Іаана Хрысціцеля) і ўвёў Марыю ў самае святое месца — у Святое Святых, паколькі Бог заявіў яму, што гэта незвычайная Дзева.

Бацькі пакінулі Марыю пры храме і з вялікай радасцю вярнуліся ў Назарэт, прадчуваючы нязвыклую ролю, якая выпадзе на долю іх дачкі. Прасвятая Дзева прабывала пры храме да 14 года жыцця. Яна апекавалася беднымі і калекамі, займалася рукадзеллем, асабліва любіла шыць і вышываць аблачэнні. Гэта Яна выканае ў будучыні хітон (ніжняе мужчынскае адзенне старажытных грэкаў) Свайму Сыну з саматканага матэрыялу без шва. Аднак галоўным пастаянным заняткам Дзевы Марыі было чытанне Свяшчэннага Пісання і малітва, дзеля якой падавалася яна ў Святое Святых.

„Колас Яе дзявоцтва вырас на ніве, якой быў храм. Гэта для нас навука, што для паспяховасці нашых добрых учынкаў у многім дапамагае святое месца і кантакт з набожнымі людзьмі. Паказвае на гэта таксама гісторыя выбранага народа, а дакладней гісторыя іх двух правадыроў — Майсея і Ісуса Навіна. Першы вывеў свой народ з Егіпта, а другі прывёў яго ў Запаветную Зямлю. Шчаслівы той, хто вывеў сябе і іншых з цяжкай егіпецкай няволі, але бадай больш шчаслівы той, хто сябе і іншых прывёў у Запаветную Зямлю. Чаму Майсей не ўдастоены Богам той ласкі, якой удастоены сын Навіна? Зразумеем тое, калі прыглядзімся з чаго пачаў сваё жыццё Майсей. Былі гэта каралеўскі палац, раскошнае жыццё і свецкая палітыка (Выхад, 2:10), а Ісус Навін пачаў жыццё з Божага храма (Выхад, 33:11). Ведай, Майсей, што не ўвойдзеш у Запаветную Зямлю, бо ты правёў маладосць на свецкай службе, а ты, сын Навіна, увойдзеш шчаслівы, бо сваю маладосць правёў на службе Богу".

Прасвятая Дзева Марыя правяла сваю маладосць „не адыходзячы ад храма Гасподняга". Дзякуючы таму, атрымала незвычайную духовую сілу.

Свята Увядзення паказвае нам, як вялікае значэнне ў выхаванні дзяцей мае святыня. На прыкладзе праведных Іаакіма і Анны Царква навучае, што трэба выконваць набожныя абяцанні, а прыклад выхавання Дзевы Марыі асвятляе і паказвае нашыя абавязкі ў адносінах да дзяцей. Трэба як найраней і найчасцей прыводзіць іх у храм, абавязкова ў нядзелі і вялікія святы. Здараецца, што на ўроку Закону Божага на пытанне, чаму яно ў чарговы раз не было ў царкве, дзіця адказвае, што таму, бо бацькі не пайшлі. Не забывайма аб гэтым, бо на старасць гадоў можа яно стаць прычынай нашых слёз. Памятайма таксама, што за выхаванне дзяцей будзем у будучым адказваць перад Госпадам. Дзяцей трэба таксама вучыць штодзённай малітвы дома, запаведзяў Божых, а пры дапамозе адпаведных заняткаў і прыкладаў развіваць у іх любоў да бліжніх, вучыць прытрымоўвацца царкоўных норм, разбуджаць і замацоўваць набожнасць і страх Божы.

Пачынаючы са Свята Увядзення ў царкоўных службах гучаць словы „Хрыстос нараджаецца — славіце", што нагадвае нам хуткі надыход Раджаства Хрыстовага. Нагадваюць аб ім і калядкі, якія спяваюцца з гэтага дня.

Вось кандак свята:

*Найчысцейшая святыня Збавіцеля, дарагацэнны палац і Дзева, скарбніца славы Божай, сёння ўводзіцца ў дом Божы, прыносіць з сабою ласку, што ў Боскім Духу. Яе анёлы Божыя ўслаўляюць. Яна — сяліба нябесная.*

**С.Н.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

*Сакрат Яновіч*

# ТЫЯ КАШУБЫ, БЫ БЕЛАРУСЫ?

І мы, і яны, маем за сабою тысячагадовую гісторыю. І гэтак жа абое цёмныя ў ёй, калі гаварыць пра тыповую асобу. Як і наша старабеларуская дзяржаўнасць, таксама іхняя, паморская, захілела ў тым жа семнаццатым стагоддзі. Баярства глынуў pański język, і заходні wykwint, а памаранцаў Hochsprache, брандэнбургская цывілізаванасць. І тут, і там, заможная эліта падпала пад смяротную асіміляцыю па двух прычынах: палітычнай падпарадкаванасці суседу і матэрыяльнай слабасці бацькаўшчыны. Сам жа славянскі моўны разліў, акаляючы Берлін і падступаючы разлогамі Эльбы пад Дрэжджаны (Дрэздэн), высыхаў значна пазней, у васемнаццатым стагоддзі. Па сёння застаўся серба-лужыцкі энклаў з цэнтрам у Будзішыне (Баўцэн), дзякуючы бядотнай ізаляванасці некалі балотнымі ваколлямі Шпрэвы, як і даволі доўгай прыналежнасці да Каралеўства Чэхіі.

Кашубы — гэта рэштавіна памаранцаў, уцалеўшая на балтыйскім узбярэжжы Рэчы Паспалітай.

Адкуль узяліся кашубы? — запыталі ў канчаючых у 1994 годзе пачатковыя школы ў выбраных, нямоцна змешаных этнічна, мясцовасцях гданскае Кашубіі. Акрамя правільных адказаў, нешматлікіх, былі і блізкія жарту: *Кашубы — гэта гуралі, якія запазніліся на карабель у Амерыку*. Нешта падобнае можна пачуць, нават і прачытаць, у нашым Бельску наконт беларусаў ад тутэйшых палякаў: *Беларусы — гэта завезеныя сюды царамі кацапы*. Падабенстваў з беларускім даўняга і цяперашняга лёсу кашубаў выяўляецца больш, чымсьці ў тых дэбільных анекдотах.

Перш-наперш, тамашнія бацькі ідэнтычна заўзята гадуюць сваіх дзяцей на т.зв. чыстых палякаў. Так адрэагоўваюць яны вечнае ў іх бесперспектыўе, шматвяковае. У нейкім сэнсе праграмна не азываюцца да патомкаў абсмяяным кашубскім словам. Адзін з паэтаў сказаў быў смутным паўжартам: *Нават сабакі ў нас перастаюць разумець па-кашубску...* У беларусаў, як ведаю, сітуацыя крыху лепшая: Лёніка Тарасэвіча зубасты Шарык зусім не кантактуе па-польску, што практычна беластоцкія зладзеі інтэрпрэтуюць не як нацыянальнае выхаванне ваўчугі, але абарончае дзеянне разбагацелага мастака... У „Ніве" нехта горка іранізуе, што не ўдаецца яму напасці на след такога дзеда, які гутарыць з унукам яшчэ па-свойму. Усяму гэтаму веру я, бо ў родных мне Крынках, калі хачу адчапіцца ад якога дурня, заядла размаўляю з ім на беларускай мове і ён, плюючыся, ідзе кібенімацеры і не было выпадку, каб зноў вярнуўся.

Жарты жартамі, а кашубскія вучні — дакладна з нашымі — не адчуваюць духоўнай повязі з роднай зямлёю: прыблізна ўсяго кожны чацвёрты прымае да сэрца, досыць неакрэслены, кліч ценяў продкаў. Спецыфіка ўмоў іх самавызначэння настолькі тая і не тая, што ў Кашубіі толькі пачынаецца навучанне, як яны кажуць, rodnej mowy. Аднак жа, іначай чым у нас, захавальнікамі ды прапагандыстамі тамтэйшага патрыятызму з'яўляюцца, таксама, некаторыя каталіцкія святары, кашубскамоўныя прапаведнікі. Тым не менш, рэзультаты — як бачна тое — нагадваюць беларуска-беластоцкія. Чатырнаццаць усяго працэнтаў апытаных маладакашубаў глыбей атаясамліваецца з этнічнымі каранямі.

Звяртае ўвагу амаль адсутнасць патрыятычна настроеных педагогаў, настаўніц і настаўнікаў, што для мяне знакаміта тлумачыць чарговую аналогію. І не здзіўляе, бо яны ж з пакалення тых жа бацькоў, пільна дбаючых пра будучыню дочанькам ды сыночкам, якім абавязкова павінна лягчэй жыцца (Польшча ў іх уяўленні — гэта агульнанародны вялізны фальварак з панамі ў пакоях і эканомамі ў гаспадарцы). Здзіўляе што іншае, адваротны лік тых вучняў (85%), што хацелі б хадзіць на ўрокі rodnej mowy kaszebskiej, нягледзячы на татальны факт, што ні дома, ні ў сяброўскім асяроддзі аніхто не звяртаецца на ёй да іх, чуюць яе наслыхам ад старэйшых. У чым заключаецца гэты, здавалася б, супярэчлівы, феномен?

Уласныя тлумачэнні пятнаццацігодкаў, вядома, эмацыянальныя часцей, павярхоўныя. — *Трэба ведаць сваю мову. — Сорамна, што не ведаю яе. — Бо жыву ў Кашубіі. — Без кашубскай мовы знікнуць і самі кашубы. — Усё болей культурных людзей размаўляе на кагшубскай мове.* І г.д.

Прычыны таго, несумненна, грунтоўнейшыя. Упадак дзяржавы штатаў, у якой усе, апрача гаспадароў у вёсках, знаходзіліся на казённай службе, аб якой мала сказаць, што была яна гарантаванай; упартых беспрацоўных наведвала міліцыя, палохаючы лагерам для прымусовай работы, горш платнай. Карміла хлебам адна, сацыялістычная рука, якую выпадала ж цалаваць, дзякаваць. Хуткі цяпер заняпад тае *культуры дзякавічаў* і даволі імклівы, напэўна непазбежны ўжо, прыход культу прыватнай знаходлівасці, самастойнасці, ставіць чалавека ў супрацьлеглае з папярэднім становішча асабістае адказнасці за свой лёс, на які няма да каго бегчы са скаргаю. Актуалізуецца прымаўка: *Як паслаў, так і паспаў.*

Капаючы ў глыбіню аб'ектыўных абумоўленасцяў кашубскага (і не толькі) ажыўлення неабходна мецъ на ўвазе не адны пераменныя суадносіны на лініі чалавек — грамадства. Фінальна вырашальным аказваецца імкненне да духоўнасці, інтэлектуальнасці, інтымнасці, да ўсяго таго, што спрыяе індывіду паўстаць перад цэлым сусветам. Узвысіцца над экзэмплярную біялагічнасць і стэрэатыпы грамадскай функцыянальнасці адзінкі. Дарэчы, на фоне акурат банкруцтва небезвядомай і нам натугі пераўтварыць чалавецтва ў інфантыльна-шчаслівую масу, да чаго дадумаўся быў не заходнееўрапейскі Маркс, а інтэрнацыянальны заморанік з інстынктыўна-прасцяцкай марай смачна есці, нічога не рабіць, гожых бабаў дубасіць... Першабытна-паганская ўява раю, у эстэтыцы элітнага публічнага дома.

Без шырокапланавай культурнасці нацыянальнасць не пашыраецца, бо яна ёсць вытворнай з'явай самое ж культуры. *Po co ciemniakowi narodowość?* — рытарычнае пытанне (у даваенне блізу палова этнічных палякаў ва ўласнай дзяржаве не ўсведамляла сваёй польскасці). Але, тая ж культурнасць акажацца зніштажальнай рунеючаму аўтахтоннаму руху, калі рэалізуецца яна якраз паводле каланіяльных узораў: у адарванасці ад эканамічнага развіцця айчыннае тэрыторыі. Таму сінхроннасць абодвух фактараў — духоўнага і матэрыяльнага — раскамплексоўвае, фармуе пачуццё закаранеласці, лечыць з правінцыяльнасці, з навыку жыць у чужым бляску. У заможнай і начытанай Францыі, напрыклад, наглядаецца апошнім часам імпэт да моваў і культураў, пра якія быццам і забыліся ўсенародна ў гэтай краіне. У рэгіёне Эльзас шэсцьдзесят шэсць тысяч бацькоў пажадала ў школах карэннай эльзаскай мовы; дзевяць тысяч — лангедоцкай (на поўдні), пяць тысяч запатрабавала ўрокаў карсіканскай, а чатыры тысячы нашчадкаў слынных у старажытнасць кельтаў — брэтанскай, у паласе атлантычнага беpагоўя, і паўтары тысячы дамаглося навучання каталонскай мовы на сумежжы з іспанскай Каталоніяй. Скромны пачатак спіску ўпершыню чутых намі малых народаў і этнічных групаў на кантыненце.

У кашубаў больш шанцаў не паддацца асіміляцыйнай рэдукцыі, чымсьці ў нас. Іх разаграваe ды самаўпэўнівае гаспадарчая кан'юнктура прыморскага краю, магутная агламерацыя Трыгорада. У гэтым, калісьці глухім, закутку Польшчы цяпер лепей і лепей; вёскі і мястэчкі не абязлюдзелі. Не відаць там беластоцкага сіндрому каланіяльнага горада пасярод апусцелай акругі, афрыканізацыі накшталт: Дакар і Сахара. Няма і крыўдлівага самаадчування, так кідкага ў вочы на апушчаным у анахранізме Шлёнску з яго старасвецкай індустрыяй, і з папулярнай кпінаю, цэльнаю: *Róbta, chłopy, róbta, aby było tak dobrze, jak za Nimca, albo i lipiej!* Адсюль множацца ў колішнім Schlesien новыя немцы, нічога што са славянскімі прозвішчамі і мізэрным *шпрэханнем*; выязджаюць яны ў Нямеччыну, лічба эмігрантаў перавысіла за мільён. Хочуць лепей мець, а два разы жыць на гэтым жа свеце не будзеш. У такой сітуацыі сама, нават вышэйшая, культурнасць выдае сябе бяссільнай: не чуваць пра дамаганні навучаць гісторыю і культуру рэгіёна, пастулаты ад насельніцтва датычаць увядзення, так-так, прадмета нямецкай мовы, вось.

Тое, ці быць або не быць беларускай масе тут — залежыць ад перпектыўнасці або неперспектыўнасці гмінаў менавіта. У самім Беластоку мы не народ, а распыленыя па перыферыях мігранты, *nie stawiający warunków uciekinierzy* ад горшага.

**С. Яновіч**

# Смерць у жыцці і творчасці Максіма Багдановіча

*Працяг са стар. 1*

Прыведзеныя тут факты з асабістага жыцця Багдановіча ў вялікай ступені адбіліся на характары шматлікіх твораў паэта, у якіх непасрэдна, часта ў першай асобе адзіночнага ліку, будзе ён весці разважанні на тэму сэнсу жыцця і смерці, а таксама выкажа свае адносіны да самога факту прамінання, адыходу.

На факт, што Багдановіч так часта займаўся праблемай смерці, паўплывала таксама ў нейкай ступені тагачаснае палітычнае становішча Беларусі, якая шмат пацярпела ад вайны, збіраючай тысячы ахвяр. Пра тое, што гэтая праблема так займала Багдановіча можам даведацца з артыкула „Забыты шлях", у якім пісаў ён:

*Цяжкі ўдар прыняла на сябе наша краіна, на яе абшарах сышліся мільённыя арміі, точуцца бітвы, усё нішчыцца, гаспадарка гібее, не тысячы, а сотні тысяч людзей павінны кідаць усё сваё ды ісці па нязмераным дарогам далей, а куды — немаведама, ісці, не знаходзячы прытулку, не маючы скарынкі хлеба, паміраючы і ад голаду, і ад пошасцяў, не ведаючы, якую даць сябе раду.*

Часта паўтараюцца ў творчасці Багдановіча матывы смерці за радзіму, матыў адзінокай магілы ў полі, якія напэўна былі выкліканы перажываннямі і фактамі сустрэтымі паэтам у штодзённым жыцці. Несумненна яны пакінулі след на душы ўражлівага, маладога паэта.

Вялікім адгалоссем азвалася таксама ў паэзіі Багдановіча смерць блізкіх яму асоб. Пра балючае адчуванне смерці Сяргея Палуяна — беларускага паэта і крытыка, пісаў паэт у артыкуле „Глыбы і слаі".

*Ёсць у нашай літаратуры і яшчэ адна драма — жыццёвая. 8 апрыля абарваў жыццё сваё на дваццатай вясне Сяргей Палуян, а якая любоў да Беларусі таілася ў яго сэрцы, які шырокі, многабочны талент загінуў з яго смерцю...*

Пра зацікаўленне Багдановіча праблемай смерці сведчаць таксама ягоныя пераклады паэзі, у якіх знаходзім і праблему прамінання, і смерці. Сярод перакладаў Багдановіча знайшоўся м. інш. верш Г. Гейнэ „Welthauf", у якім адлюстравана тэма вечнай несправядлівасці ў свеце і вынішчаючай бяды, якая вядзе тых, у якіх няма сродкаў да жыцця, да смерці. Ёсць таксама верш „Der Asra" — пра праблему смерці ад нешчаслівага кахання. Малады нявольнік — лірычны герой твора — марнее душой і целам з прычыны аддалення ад радзімы, таму што яго айчына, яго нацыя, гэта:

*... тыя Азры*
*Што канаюць ад кахання.*

Сярод Багдановічавых перакладаў ёсць таксама „Памятнік" Гарацыя („Exegi monumentum"), у якім гучыць матыў смерці паэта, песняра, які ўзносіць сабе помнік магутнейшы ад усіх іншых — помнік сваёй творчасці.

Багдановіч пераклаў таксама творы расійскага паэта М.П. Розенгейма, сярод якіх верш „Тяжёлая дорога" закранае праблему вандроўкі. Вандроўкі да магілы. Вандроўкі без трывогі і страху. Праблему смерці знаходзім таксама ў перакладах на рускую мову твораў Купалы і Шаўчэнкі. Купалаў верш „Для зямлі прадзедаў маіх" займаецца праблемай смерці ў імя айчыны, у імя так званых вышэйшых, важнейшых мэт.

Падобна, як у Багдановіча, у Купалы айчына — гэта асалода цярпення, гэта ўціхамірванне болю, гэта месца, дзе ўміраецца без страху.

У трох перакладах Шаўчэнкі, а менавіта ў вершах „Н.И. Костомарову", „В неволе" і „Готово! Парус распустили" — прысутнічае матыў смерці, а гаворачы дакладней, матыў вынішчаючай і дэградуючай цела і душу няволі.

Адносна прысутнасці праблемы смерці ў творчасці Багдановіча трэба яшчэ ўспомніць пра вершы „Я умру — так и знай" і „Не сердись на меня, тихий друг", у якіх паэт з пэўнай лёгкавырашальнасцю стварае паэтычныя вобразы і ў рэалістычны спосаб адносіцца да праблемы прамінання.

Дапаўненнем у гэтай тэме з'яўляюцца яшчэ запіскі Багдановіча „З чарнавых накідаў", дзе вершы „Ой, грымі, грымі труба", „Ой, скацілася зорачка, скацілася" і „Шчасцем яна аж да краю" адносяцца да тэмы смерці.

Нязвыкла красамоўным з'яўляецца таксама твор, змест якога дазваляе нам сцвярджаць, што Багдановіч глыбока верыў у адраджэнне сваёй радзімы, чакаў яе ўваскрэсення і не паддаваўся існуючым у пачатку XX стагоддзя настроям дэкадэнцтва. І гэтым жа аптымістычным творам закончу роздумы над праблемай смерці ў жыцці і творчасці Багдановіча:

*Ты не згаснеш, ясная*
*заранačка,*
*Ты яшчэ асвеціш родны край.*
*Беларусь мая! Краіна-браначка.*
*Устань, свабодны шлях сабе*
*шукай.*

**Бэата Капій**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Дзякуй табе за тое, што ты разгадаў сон мой і майго мужа. Так і мне здавалася, што яны надта кепскае абазначаюць. І ты пацвердзіў мае здагадкі. Сумна, страшна мне ад іх.

Але думаю, крыху мо парадуюць мяне сны майго зяця і дачкі. На днях во прысніліся.

Зяцю сніцца, што ён са сваім сынам, а маім жа ўнукам знаходзіцца на паляне. Паляна вельмі прыгожая, ды ўся ўсеяна белымі грыбамі — праўдзіўкамі. І яны ўдваіх іх збіраюць.

А дачцэ вось такое прыснілася. Ідзе яна дарогаю ў лес. Ды як бы бачыць сябе ззаду. Выглядае вельмі прыгожа — доўгія, прыгожыя валасы, стройная фігура і прыгожыя, здаровыя ногі (у сапраўднасці з нагамі якраз і мае яна клопат), ды толькі боцікі нейкія шмацяныя. Але нічога, падумала яна.

Марыя

Марыя! Сапраўды, гэтыя сны абазначаюць для тваёй сям'і паварот спраў у добры бок. Сон твайго зяця абазначае вялікі поспех у сардэчных справах (маю надзею, што ў адносінах да тваёй дачкі!), але можа гэта датычыць і твайго ўнука (калі ён ужо вялікі). Зяць жа збіраў тыя грыбы з сынам, а грыбы пры гэтым былі белыя, праўдзівыя ды раслі на прыгожай паляне.

Сон тваёй дачкі абазначае нейкі поспех у справах. Магчыма, атрымаюць яны нейкі прыбытак, бо ёй сніліся прыгожыя, доўгія валасы. Яна сябе бачыла прыгожай — дык і ў жыцці спаткае яе нешта прыгожае.

Астрон

Варта ведаць

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

**1750 год** — Беласток налічваў 1 845 жыхароў і 543 дамы.

**1800** — У Беластоку пражывала 3 930 чалавек і было 459 дамоў.

**1845** — Беласток быў 16-тысячным горадам і было ў ім 708 дамоў.

**1880** — Беласток ужо 35-тысячны, а ў ім 47 тэкстыльных фабрык.

**1890** — Колькасць жыхароў Беластока павялічылася да 60 тысяч і тэкстыльных прадпрыемстваў да 81.

**1921** — Горад Беласток амаль 77-тысячны. Варта аднак адзначыць, што ў 1914 годзе ён быў на 23 тысячы большы і тады налічваў роўна 100 000 жыхароў.

**1944** — У Беластоку ўсяго няпоўныя 48 тысяч жыхароў.

**1956—1961** — Колькасць жыхароў беластоцкай метраполіі павялічылася са 100 да звыш 125 тысяч.

**1970** — Беласток — 170-тысячны.

**1979—1984** — У сталіцы Беластоцкага ваяводства колькасць жыхароў узрасла з 210 да 235 тысяч.

**1993** — Насельніцтва Беластока: 377 тысяч.

(яц)

З былога

## Я немец Райку набіў

У час вайны, калі наступалі рускія, у стадоле Мацея сяляне забілі немца-дэзерціра.

У Мацея была адна дачка, Райка, вельмі ж палахлівая. Зімой, калі бацька знядужаў, пайшла набраць сена для кароў. Адчыніла вароты ў клуні, пачала скубці сена са стараны. Прыгадаўся ёй немец-нябожчык.

— Божа мой, што ж вайна людзям нарабіла! — уздыхнула дзяўчына. — Чаго ж было яму ісці на нашу зямлю! Прыказалі — пайшоў. Малады хлопец быў. Бацькі яго, пэўна, чакаюць, можа, і жонка маладая з дзеткамі... А ён тут на чужыне галаву паклаў! Блізкія нават не ведаюць, дзе яго магілка, забілі яго і закапалі як жывёлу, без малітвы...

Пару крокаў ад Райкі стаялі граблі зубамі ўніз. У цемры Райка наступіла на іх. Чаранок грабляў як не трэсне яе ў лоб! Дзяўчына з ляку ўпала ніц. „Гэта, пэўна, прывід таго немца так мяне ўдарыў!" — падумала, не адплюшчваючы вачэй.

Ляжала доўга, не варушылася, потым папаўзла дадому па снезе. Бацькі ўжо непаколіся, што Райка так доўга ўпраўляецца. Маці выйшла на двор:

— Ой, Раечка, а што ж табе гэта? Хто ж цябе так пакрыўдзіў?! — залямантавала старая.

— Ой, мама, гэта той забіты немец так мне па галаве ўдарыў! — заенчыла дзяўчына.

Райка тыдзень ляжала хворая. Пасля гэтага яшчэ доўга адна баялася выходзіць увечары з хаты.

Аўрора

## ДВУХЛІТАРНАЯ КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 1. стан радасці, задавальнення, 3. пра яго і Людмілу паэма Пушкіна, 5. рыдлёўка, 7. жыхар паўднёвых склонаў Пірэнеяў, 9. напр. Парнас, 10. самастойны пачын, 11. кантынент, 12. жыллё барсука, 14. рознакаляровыя кветкі, 16. савецкая „ферма", 17. парафія.

**Вертыкальна:** 1. беларускі гімнаст, 2. не душа, 3. расліна сямейства рутавых, 4. сталіца Турцыі, 6. племянны лад з панаваннем мужчын, 8. святыня Майсея, 9. сталіца Кубы, 11. алфавіт, 13. здараецца пасля вяселля, 14. стыль плавання, 15 міжземнаморская выспа.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 42 н-ра:**

**Гарызантальна:** дзед, Браўн, акруга, арэх, сіроп, аскома, пацяруха, малая, Канвіцкі, здабытак, Нігер, ластаўка, Бамака, армія, сход, свіран, канец, Адам.

**Вертыкальна:** арбіта, Еўропа, зярнятка, Дахау, Арыка, агама, паядынак, схованка, муза, Леан, сцяг, Кіпр, Аклахома, Іардан, Елісей, Нарва, лаўра, сасна.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Лукашу Пацэвічу з Беластока і Мікалаю Сазановічу з Навінаў-Вялікіх.**

## З гараскопа друідаў

**БУК,** *(22 снежня).* Гонкі і прыгожы бук мае шмат шляхетных рысаў. Калі ён трапіць у спрыяльныя ўмовы, яму ўдаецца здабыць поспех у любой абранай прафесіі, таму што вылучаецца спрытам і выдумкамі. Бук ахвотна распрацоўвае розныя праекты, якія хутка пераходзяць у рэальнасць. Належным чынам можа наладзіць сабе жыццё, не дасць збіць сябе з абранага шляху. Змагаючыся за свае правы, ён становіцца цвёрдым і няўступлівым. Народжаны ў час зімовага сонцазвароту людзі вельмі шануюць сваю працу, сваю ўласнасць. Некаторыя вінаваціць бука ў залішняй беражлівасці, называюць яго скупым. Аднак гэтая рыса сведчыць пра ўменне дасканала адладзіць свой бюджэт, такі чалавек узважвае ўсе „за" і „супроць". А таму ў некаторых выпадках можа надарыцца „прыступ" шчодрасці, што дае яму магчымасць гаварыць пра сябе як добрага чалавека. І сапраўды, бук мае шмат станоўчых рысаў характару. У адносінах да каханага чалавека бук схільны да аднастайнасці, але мужам ці жонкай такі чалавек бывае дасканалым. Ён прагне мець шмат дзяцей, узорна весці гаспадарку, стараецца быць шчаслівым і багатым. Народжаны ў час зімовага сонцазвароту захоўваюць рысы маладосці і ў сталым веку, маюць маладжавы выгляд, статную фігуру, часам нават дазваляюць сабе адну ці дзве прыгоды...

## Дзікая прырода вяртаецца на пустое поле

Яшчэ нядаўна здавалася, што квітнеючыя ў збожжы макі і васількі зусім прападуць. Вялікая хімія, якая мела знішчыць пустазелле, не мінала і гэтых прыгожых кветак. Падобна было і са звярынаю. Аднак ад канца 80-х гадоў ва ўсёй паўночнай Польшчы назіраецца штораз больш курапатак, драчоў і казуль. А ўсё сталася дзякуючы падзенню ПГРаў. Калі спынілася дзейнасць буйных дзяржаўных гаспадарак, перасталі ездзіць па палях цяжкія машыны, якія раз'язджалі птушыныя гнёзды ці проста касілі маленькіх птушанят, зайчыкаў ці казуль. Скончылася апырскванне палёў ядахімікатамі. Цяпер на вялікіх аблогах пачалі красавацца, нядаўна пагрожаныя вынішчэннем, макі, васількі, румянак ці асот. Паказалася многа насякомых, а ўслед за імі курапаткі, драчы і перапёлкі. Гледзячы на гэта, душа радуецца. Возьмем для прыкладу драча: птушка гэтая, уцякаючы перад чалавекам ці сельскагаспадарчай машынай, не ўзлятае ўверх, толькі бяжыць і нырае ў траву — там аднак ад касілкі не ўратуецца. Драч, адзін з чатырох у Польшчы гатункаў птушак, занесеных у сусветную Чырвоную кнігу; цяпер атрымаў ён магчымасць свабаднейшага размнажэння. Таксама расце лік і іншых відаў птушак, земнаводных і маленькіх млекакормячых. Ды не толькі аблагі паспрыялі іх размнажэнню. Свой уклад у справу ўнеслі таксама адносна цёплыя ў апошніх гадах зімы і меншы наступ драпежнікаў. Лік некаторых гатункаў аднак меншае: лятучыя жураўлі і гусі не затрымоўваюцца на палях, на якіх некалі падсілкоўваліся азімінай. Таксама трацяць свае стаянкі многія водна-балотныя птушкі ў выніку зарастання палёў і лугоў. Аднак спыненне інтэнсіўных метадаў гаспадарання дасць магчымасць пражыць многім гатункам раслін і звярыны, якія апынуліся пад пагрозай. У далейшым іх лёс залежыць будзе ад напрамку, у якім пойдзе агракультура і ад зацікаўлення ўласнікаў зямных угоддзяў аховаю цэнных біятопаў.

Андрэй Гаўрылюк

Цікава ведаць

## ЯК І ДЗЕ?

Жанчына амаль ад першых дзён вяселля пачынае бараніцца перад старасцю. Дапамагаюць ёй у гэтым сотні вучоных, якія працуюць над штораз лепшымі сродкамі для барацьбы са старасцю. Французы падлічылі, што жанчыны ва ўзросце 20—43 гадоў штодзень прастойваюць перад люстрам 99 мінут. Адно і тое пытанне: „Ці я прыгожая?"

Ужо ў старажытным Егіпце, Грэцыі ці Рыме жанчыны ўжывалі мноства розных сродкаў, каб прыхарашыць сябе. Цяпер на свеце ёсць розныя моды і густы. Асноўны варунак прыгажосці гэта чысціня. Жанчыны на палінезійскіх астравах (Ціхі акіян) купаюцца па некалькі разоў у дзень, ужываючы моцнапеннага і пахучага мыла з какосавых арэхаў. А зноў афрыканскія прыгажуні некаторых плямёнаў не мыюцца зусім. У Бірме не мае права жонка купацца, калі няма ў хаце мужа. Розных звычаяў — добрых і дрэнных — без ліку.

ЯСЕНЬ




"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранові́ч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 65 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 10 000 zł., a kwartalnie - 130 000 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.


© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МОЖА І НЕ ВАРТА

Мікіта Агапкін сядзіць у кабінеце. Звоніць тэлефон. Мікіта бярэ трубку.

— Зямляк, гэта ты? — чуе ён у трубцы.

Мікіта на нейкі момант бянтэжыцца, але на ўсялякі выпадак кажа:

— Ну, хай будзе так.

— Віншую цябе, братка!

— З чым?

— З павышэннем. Ты ж быў дагэтуль участковым, та-ак? А цяпер, я чуў, следчым прызначылі.

— Нічога не паробіш. Час бяжыць...

— Не кажы: бяжыць, ды яшчэ як!.. У мяне ўжо двое жэўжыкаў пад сталом бегаюць.

— Віншую... Ну, што ў цябе яшчэ новага ў жыцці?

— Ды што новага? Вось, зноў сяджу ў вас у дзяжурцы. Хатняе хуліганства шыюць... Дробнае. Дзяжурны паперы афармляе. Дазволіў мне пазваніць як твайму земляку. А я дык нічога такога не зрабіў. Толькі...

— Што толькі?

— Ну, трохі паганяўся за жонкай. З гэтым самым... З кухонным нажом. Але, між іншым, ён у мяне тупы... З кім не бывае?

Расчулены Агапкін пазваніў дзяжурнаму:

— Слухай, на каго ты так афармляеш справу? Ды які ён мне, ліха на яго, зямляк?.. Але зірні, можа не варта? Справа ж сямейная: сёння паскандалілі, заўтра — вадой не разальеш.

**Леанід Кацкевіч**

# СЕНТЭНЦЫІ

З розумам лёгкім
не ўзбярэшся на Алімп.

* * *

Усе дарогі вядуць у пастку.

* * *

Ілюзія і на снезе
вырошчвае пальмы.

* * *

Штодзённасць —
здымак без рэтушы.

* * *

У глебе ласкі і камень прарастае.

**БАРЫС РУСКО**







Мал. Віктара Дубовіка

# Як я доктарам стаў

Пакуль сын хадзіў у дзіцячы сад, асаблівых турбот у мяне з ім не было.

Але неўпрыкмет сігмабуўся ды ў школу пайшоў. І там яго быццам падмянілі. Жыцця не стала ад яго бясконцых пытанняў. Прыходзіць аднойчы са школы, дэкламуе:

„Альфа, гама, фазатрон,
Сігма, бэта — выйдзі вон!"

І прыстае з пытаннем: „А што такое „фазатрон"?

А я сам першы раз чую пра гэты фазатрон. Адукацыі ў мяне — кот наплакаў, усяго восем класаў. За жывое мяне ўзяло, пахіснула мой бацькоўскі аўтарытэт закавырыстае сынава пытанне. Давялося падацца ў вячэрнюю школу. Скажу вам праўду: нязвыкла і моташна было па вечарах гадзінамі куёміцца за цеснай і мулкай вучнёўскай партай, начамі гарбець над падручнікамі. Але паступова прывык і не агледзеўся, як у маёй кішэні аказаўся атэстат аб сярэдняй адукацыі.

Цяпер, думалася, сын не падкузьміць мяне ні сваімі сігмамі, ні фазатронамі. Але радасць мая была марнай. Неяк, адарваўшыся ад падручніка, ён хмыкнуў:

— Каб ты, бацька, ведаў, што ў нашай роднай мове болей чым сто правілаў і каля паўтысячы канчаткаў, ты б свой даклад напісаў лепей.

Ад сораму і крыўды я аж пачырванеў. Давялося зноў садзіцца за падручнікі — паступіў завочна ў інстытут.

Зноў неўпрыкмет мільганулі гады. Ну, думаю, усё. Дык не. Пайшоў неяк я аднойчы з сынам у заапарк. Калі ад доўгай тупатні ажно загулі ногі і мы прыселі на лаўку адпачыць, сын выпашыў праверыць мае пазнанні ў жывёльным свеце.

— Як ты думаеш, бацька: колькі пазванкоў у шыі вераб'я, а колькі ў жырафавай?

— А тут і думаць няма чаго, — адказаў я і пачаў тлумачыць. — Тут па шыі ўсё бачна. У жырафы вунь якая яна доўгая! Значыць, і пазванкоў у ёй больш.

Сын ад рогату ледзь не зваліўся з лаўкі:

— Ды не, бацька. У шыі жырафы і ў вераб'інай пазванкоў аднолькава — па сем.

Вось не думаў, дык не думаў!

Ратуючы свой аўтарытэт, ды каб меней чапляўся, рашыў сесці за доктарскую дысертацыю. Чаго яна мне каштавала, балюча нават і ўспамінаць. Каменю раскажы, і той не ўлежыць — перавернецца ды горкімі слязамі абальецца. Але ўсё ўжо, на шчасце, засталося ў мінулым. Гара звалілася з плячэй — сёння абараніўся, а дадому ісці баюся. Там чакае мяне сын, і невядома, якое чарговае пытанне падрыхтаваў ён на гэты раз...

**Уладзімір Якубовіч**

# СМЕХ У САНАТОРЫІ

* * *

Размаўляюць дачка і маці:

— Для маладой дзяўчыны дом, гэта турма, — скардзіцца дачка.

— А для дарослай жанчыны, гэта лагер працы, — адказвае маці.

* * *

— Такое прыгожае надвор'е, а ты мучышся, змываючы падлогу, — спачувае муж жонцы. — Пайшла б лепш на двор і памыла аўтамабіль.

* * *

— Пані Маліноўская, ці ведаеце, што ноччу на вашым полі прызямліліся дэсантнікі.

— Хто?

— Дэсантнікі. Гэта тыя, што атакуюць ззаду.

— Бачыш ты! Я са сваім мужам ужо дваццаць гадоў жыву і дагэтуль не ведала, што ён дэсантнік.

* * *

— Якая розніца між сабакаю і жонкай.

— Сабака брэша на чужых і лашчыцца да сваіх. Жонка — наадварот.

* * *

Размаўляюць два сябры:

— Знаеш, хіба падам на развод.

— Чаму?

— Мая ўжо паўгода са мною не размаўляе.

— Міша! Апомніся! Дзе ж ты знойдзеш такую другую?!

* * *

— Кажуць, што Кавальскі пазнаў сваю жонку па матрыманіяльнаму анонсе ў газеце.

— І як ім жывецца?

— Не ведаю. Знаю толькі, што перастаў ён чытаць тую газету.

* * *

Размаўляюць два чынушы:

— Ці бачыў сёння сакратарку нашага шэфа?

— Бачыў. І што?

— Мела на сабе такую абціслую кофтачку, што мне аж дух заняло.

* * *

Муляр працуе на рыштаванні. У пэўную хвіліну выпадае яму малаток і муляр з вялікай цяжкасцю сыходзіць на зямлю. Пабачыў гэта маленькі Коля і гаворыць:

— Мой татка заўсёды мае запасны малаток і не патрабуе злазіць уніз.

Праз нейкі час выпала муляру кельня. Яшчэ не паспеў сысці, а ўжо чуе:

— Мой татка мае запасную кельню.

Праз нейкі час сыходзіць муляр за сваёю патрэбай і з насмешкай пытае Колю:

— А можа твой татка мае і два „інтарэсы"?

— А як жа! Адзін маленькі, калі ідзе ў прыбіральню, а другі, вялікі, калі памагае маме распранацца.

Даслаў
**Андрэй Гаўрылюк**




Мне, Сэрцайка, ужо 35 гадоў. Апанавала мяне паніка, таму і пішу табе. Я ніколі не думала, што буду мець клопаты з выйсцем замуж. Было ў мяне шмат калег і знаёмых, якія мяне ахвотна запрашалі туды-сюды і нават прабавалі наблізіцца з інтымнымі справамі. Але мушу табе прызнацца, што я ніколі не дазволіла на тое, каб перакрочылі яны запаветную граніцу. Я цвёрда пастанавіла данесці сваю дзявочасць да шлюбу.

Ну, і данесла... Ды толькі пара ўжо дзяцей выхоўваць, а мяне яшчэ ўзяць ніхто не хоча. Нават не агледзелася я, як гэта здарылася: усе навокал пажаніліся, павыходзілі замуж і няма ў мяне цяпер нават сяброўкі, з якой маглі б мы кудысь схадзіць. Усе заняты мужамі і дзецьмі! Працуюць, будуюцца, абсталёўваюць кватэры.

А я засталася адна. Мушу табе, Сэрцайка, прызнацца, што ў мяне сярэдняя прафесіянальная адукацыя і я добра зарабляю, люблю таксама дом і дзяцей. Не ўяўляю сабе жыцця без сям'і. А што будзе?

Думала я думала і рашыла паспытаць шчасця ў матрыманіяльных бюро. І пачала пісаць у розныя гарады Польшчы. І што думаеш? Атрымлівáю дзесяткі пісем, але ўсё гэта не тое, чаго спадзявалася я.

Я ж пра сябе пісала, што мая самотная душа імкнецца да другога чалавека. Я думала, што калі выберу сабе мужчыну, вартага майго выбару, дык разам мы будзем будаваць перш за ўсё нейкую духоўную суполку, а пасля матэрыяльныя вартасці.

Высветлілася, што ніводзін з мужчын, якія адпісалі мне, пра ніякія якасці маёй душы не пытаўся. Непатрэбна ім гэта было!

Амаль усе падыходзілі да справы практычна і патрэбна ім была гаспадыня, работніца, ну, некаторым, праўда, патрэбна была і каханка, але гэтыя справы яны ставілі і так на апошнім месцы.

Найбольш пісалі людзі з вёскі, відаць, мой узрост ім падыходзіў (35 гадоў — рабочая баба!). То пісаў удавец з трыма дочкамі. Пацяшаў мяне тым, што хоць кароў у яго каля дваццаці, але ўсё механізавана, і я там не перапрацуюся. Людзі, але ж у мяне ёсць прафесія! А да таго, напрыклад, ці ж маю я завязаць сабе жыццё выхоўваннем чужых дзяцей?! Тым больш, што і бацька іх чужы мне...

А то напісаў чалавек з вёскі, які хваліўся, што ён надта багаты, ёсць у яго ўласная пякарня, а пры пякарні вялікая крама, дзе я магла б прадаваць свежыя булачкі. А няхай ты згары! Я думала, што яны жонку шукаюць, а яны б нават за працу чужому плаціць не хацелі б — лепш жонцы!

А нядаўна я атрымала ліст, які амаль зусім адбіў у мяне ахвоту што-колечы пісаць. 45-гадовы чалавек, які жыве са сваёй не надта старой маці, прыслаў мне цэлую інструкцыю, што і як я мела б рабіць у яго доме. Шкарпэткі трэба праць асобна, а кальсоны асобна, — падкрэсліваў ён перш за ўсё. — Абеды варыць спажыўныя, але лёгкастраўныя — мама на дыэце. Кватэру прыбіраць штодзённа, таксама штодзённа прапраць жырандолі. Пакупкі рабіць ашчадна і прадстаўляць рахункі маме! Ну, а да таго, дадаваў, маю быць дзейсная ўначы, бо і гэтыя справы ён таксама любіць.

Божа мой! Гэты ліст ужо знерваваў мяне не на жарты. Я думала, што ў матрыманіяльных бюро людзі шукаюць кахання, а жыццё пераканала мяне, што гэта ў большасці маленькія людцы, якія думаюць толькі пра сваю ўласную выгаду. А мне патрэбны Чалавек! Ці варта яшчэ пісаць, як ты мяркуеш, Сэрцайка!

**Майка**

Майка! А мо лепш было б разгледзецца вакол сябе. Няўжо ўсе ўжо пажаніліся і не засталося для цябе нікога?! Людзі ж жэняцца і ў 60 гадоў, а ты яшчэ маладая. Не спяшайся і не рабі панікі. Будзь спакойная, але і рашучая ў дасягненні мэты. Твае сябры пажаніліся, але ж сябры — гэта не толькі 35-годкі! Можаш паявіцца ў кампаніі з малодшым на 10 гадоў сябрам, а сустрэнеш таго адзінага, якога ты чакала. Неабавязкова ж хадзіць з тым, каго кахаеш — важна быць у руху.

**Сэрцайка**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016